

# БЕЛАРУСКІ ДАЙДЖЭСТ

BELARUSIAN DIGEST

ГАЗЭТА БЕЛАРУСКАГА ЗАМЕЖЖА ў АМЭРЫЦЫ

BULK RATE US POSTAGE PAID ADA, MI Permit No 47

1086 Forest Hills, SE. Grand Rapids, MI 49546-3616 USA.

№ 7(20) Жнівень 1995 August Год выд. 3


# Паўторныя выбары дэпутатаў у Беларускі парлямэнт адбудуцца ў сераду 29-га лістапада 1995 г.

(На Захадзе пасьміхаюцца, што на Беларусі дзяржавай будуць кіраваць калгасьнікі...)

*Мікола СТАТКЕВІЧ:*

## "Сацыял - дэмакраты павінны адпавядаць сваёй назве"

"Сталіца"

***Мікола СТАТКЕВІЧ — фігура даволі вядомая і ў сталіцы, і ў рэспубліцы. Неаднойчы яго імя мільгала ў друку ў сувязі з рознымі калізіямі нашага грамадска-палітычнага жыцця, з якім ён, былы кадравы вайсковец, цесна знітаваў свой уласны лёс. Гэты выбар наканаваў яму шмат выпрабаванняў, у тым ліку і драматычных, шмат складанасцяў, але гэты чалавек дастойна перанёс усе ўдары і выстаяў.***

***І вось нядаўна СМІ паведамілі аб тым, што на апошнім з'ездзе Сацыял-дэмакратычнай Грамады Мікола Статкевіч абраны лідэрам гэтай партыі. Менавіта гэтая падзея і паслужыла падставай для інтэрв'ю карэспандэнта «Сталіцы» з новым кіраўніком Грамады.***



**— Мікола, вас добра ведаюць як лідэра Беларускага згуртавання вайскоўцаў. З чым, найперш, звязана вашае рашэнне змяніць палітычнае амплуа? З аднаго боку, зразумела — грамадоўцы спынілі свой выбар менавіта на вас, але ж, з другога, вы таксама, пэўна, зрабілі свядомы выбар...**

— Нагадаю, з пачатку 90-х гадоў я стаяў ля вытокаў стварэння БСДГ, з'яўляўся членам Цэнтральнай Рады. Да месца будзе сказана, што менавіта пад дахам Грамады стварылася і секцыя вайскоўцаў, яе сяброў, што затым пераафармілася ў самастойную надпартыйную арганізацыю — БЗВ.

Да лета 94-га я з'яўляўся намеснікам Старшыні выканкама БСДГ. Але пасля таго, як апынуўся ў меньшасці па пытанню адклікання подпісаў грамадоўцаў на карысць кандыдата ў Прэзідэнты Генадзя Карпенкі, мусіў развітацца са сваёй пасадай у Грамадзе. Бо палічыў такі ход несумленным і пераканаваны, што ён толькі пашкодзіў і таму ж Шушкевічу, і Грамадзе.

Зараз Грамада перажывае не лепшыя свае часы, натуральна, узнікла неабходнасць карэкціроўкі яе палітыкі і абнаўлення кіраўніцтва. Чаму я вырашыў змяніць палітычнае амплуа? Згодна са статутам БЗВ асноўныя накірункі яго дзейнасці — барацьба за адраджэнне беларускай дзяржаўнасці, супраць злачыннасці, кансалідацыя дэмакратычных сіл. Пасля паражэння на апошніх выбарах мы прыйшлі да высновы, што выкананне гэтых задач абцяжарваецца стратай аўтарытэту дэмакратаў і пагаршэннем эканамічнага стану грамадства. Я лічу, што дэмакратычныя сілы працуюць не прафесійна, дапускаючы надта сур'ёзныя і недаравальныя памылкі. Усе намаганні аб'яднаць іх пацярпелі крах. Трэба паспрабаваць кансалідаваць іх, так бы мовіць, зверху.

**— Але ці не сведчыць змена кіраўніцтва Грамады аб тым, што ў партыі, як і шэрагу іншых, няма адзінства? Прабачце, але аб якім яднанні дэмакратаў можна гаварыць у такім выпадку?!**

— Сутыкненне розных падыходаў у партыі — з'ява зусім нармальная, а вось якраз адсутнасць дыскусій па канцэптуальных пытаннях — гэта ненармальна. Што да Грамады, дык па стратэгічных накірунках яе дзейнасці адзінства, несумненна, існуе. А змена палітычнага лідэра — гэта нармальная з'ява ў цывілізаваным грамадстве, тым больш, што ўсё адбылося ў адпаведнасці з дэмакратычнымі працэдурамі. Дарэчы, былы кіраўнік БСДГ Алег Трусаў даў згоду заняць адну з кіруючых пасад у партыі.

**— Мусіць, так ці інакш са зменай кіраўніцтва будуць унесены і змены ў палітыку і тактыку вашых дзеянняў. У вас ёсць ужо што прапанаваць, каб Грамада мела большую вагу і большыя перспектывы ў палітычным жыцці Беларусі?**

— Упэўнены: тыя сябры БСДГ, што галасавалі за мяне, галасавалі найперш і за карэнныя змены. Сацыял-дэмакратычная партыя павінна, нарэшце, адпавядаць сваёй назве. Крызісны эканамічны стан, абвал у эканоміцы падрываюць устоі беларускай дзяржаўнасці. І сёння палітычныя сілы павінны скіраваць найперш свае намаганні на вырашэнне балючых сацыяльных праблем грамадства. Скажыце, што гэта за сацыял-дэмакраты, якія не абараняюць работнікаў наёмнай працы, пенсіянераў? Дзеля выканання гэтых праграмных мэтаў Грамада проста абавязана дзейнічаць ушчыльную з прафсаюзамі. Але такога цеснага супрацоўніцтва не было і ў напамінку. І толькі апошнім часам робяцца рэальныя крокі ў гэтым накірунку. Паўтаруся: сёння, як паветра, дэмакратам патрэбна паразуменне і яднанне, кансалідацыя, каб змяніць палітычную сітуацыю і вярнуць у людзей давер да патрыятычна скіраваных партый і рухаў. А гэта рэальна толькі ў тым выпадку, калі дэмакраты звернуцца, урэшце, да канкрэтных патрэб народа, апусцяцца з высокіх аблокаў на гэтую грэшную зямлю, каб не прайграваць выбары і не абвінавачваць потым свой уласны народ, які не пажадаў іх абраць. Што перашкаджае гэтаму яднанню? Думаю, усё ўпіраецца ў амбіцыі палітычных лідэраў — асабіста я гатовы ахвяраваць імі дзеля агульнай справы.

**— Якія ж канкрэтныя захады вам бачацца для кансалідацыі ўсіх прагрэсіўных сіл грамадства?**

— Стварэнне моцнай аб'яднанай сацыял-дэмакратычнай партыі, на першым этапе, хаця б саюзу. Другі этап — заключэнне пагаднення аб стварэнні больш шырокага блоку паміж дэмакратычнымі партыямі розных арыентацый. І трэці — пагадненне аб цесным супрацоўніцтве на маючых адбыцца восенню выбарах паміж усімі дэмакратычнымі сіламі. І зараз я буду намагацца працаваць адразу па ўсіх трох накірунках.

**— На ваш погляд, ці магчымы канструктыўны дыялог грамадскіх структур з цяперашняй куруючай камандай?**

— Мне падаецца, што крытычны стан эканомікі вымусіць урэшце рэшт сёняшнія ўлады да такога дыялогу. Але з боку дэмакратаў ён рэальны толькі пры адной умове — непарушэнні ўладнымі людзьмі Канстытуцыі краіны...

**— Мікола, да гэтага часу ў прэсе гучыць рэха гісторыі, звязанай з фільмам Азаронка: «Нянавісць: дзеці маны», і наступным вашым візітам да стваральніка гэтага твора. У сваіх інтэрв'ю названы рэжысёр выстаўляе вас гэтакім хуліганам, якога ён, маўляў, «пракаціў па лесвіцы». Давайце расставім усе кропкі над «і»...**

— У фільме шляхам кінамантажу кадраў кінахронікі і сучасных кадраў з мітынгаў БНФ і БЗВ нас зрабілі фашыстамі... Гэта — кінафальшыўка ад першага да апошняга кадра, што і прызнаў кінарэжысёр Віктар Дашук, які адрокся ад свайго вучня за гэты антымаральны ўчынак. Такую танную падробку можна зрабіць з любым чалавекам: паказаць, напрыклад, кадры, дзе сёння ўладу маючыя гладзяць па галовах дзяцей і тут жа ўставіць кадры кінахронікі, дзе Гітлер паляпвае па шчоках падлеткаў з гітлер-югенд, назваўшы гэты фільм, скажам, «Любоў: дзеці маны».

У кожнай прафесіі ёсць свая этыка. Спадар Азаронак межы гэтай этыкі пераступіў — сумленны творца ніколі не пойдзе на такую, па словах таго ж Дашука, ганебную правакацыю!

Акрамя таго, што ён абразіў рух, ён абразіў мяне асабіста, таму што і мая сям'я ў гады вайны вельмі пацярпела ад фашыстаў — на вачах родных забілі майго дзеда, цудам выратаваўся ад кулі бацька, уганялі ў Германію маці... Уявіце, які цяжкі маральны ўдар нанёс ім Азаронак!

Таму я вырашыў, што такі ўчынак павінны быць пакараны адкрыта: сустрэўся з ім і заляпіў аплявуху. Што тычыцца лесвіцы, з якой «ён мяне спусціў», дык Азаронак жа пражывае на першым паверсе...

Ведаеце, што больш за ўсё здзіўляе ў гэтай гісторыі? Мужчына (падкрэслю: менавіта мужчына!), які атрымаў аплявуху, раззваніў аб гэтым на ўвесь белы свет. А пратрубіўшы, што яго «збілі», прыносіць у суд медыцынскую даведку аб «лёгкім цялесным пашкоджанні» ў вобласці левай шчакі».

**— Дарэчы, спадар Азаронак падкрэслівае, што вас звольнілі з войска за дысцыплінарныя правіннасці...**

— У рашэнні гарнізоннага ваеннага суда чорным па беламу запісана, што я звольнены з войска за «падпісанне заяў «Не — ваеннаму саюзу» і «Абаронім нейтралітэт Беларусі». Памятаеце 93-ці, дыскусію аб далучэнні Беларусі да ваеннага саюза з Расіяй, Арменіяй, Грузіяй і г.д. Як вайсковец, я добра разумеў, што нашых хлопцаў адразу кінуць туды, дзе ўжо не хапае расійскіх салдат. І тады на Беларусь будуць вяртацца труны... Маю пазіцыю кваліфікавалі, як «палітычную дзейнасць» і звольнілі з войска з ганебнай фармуліроўкай — за «дыскрэдытацыю высокага звання афіцэра», хаця такім чынам звычайна развітваюцца са злачынцамі ды п'яніцамі. Маё ж звальненне адбылося за два тыдні да прадстаўлення доктарскай дысертацыі да абароны.

**— Дарэчы, на каго вы пакідаеце БЗВ?**

— Днямі адбыўся выканкам, які прыпыніў мае паўнамоцтвы старшыні арганізацыі — па маёй заяве, зразумела. Да чарговага з'езда (а ён, хутчэй за ўсё, адбудзецца восенню) абавязкі кіраўніка будзе выконваць мой намеснік Алесь Станкевіч.

БЗВ па-ранейшаму адчувае сябе дастаткова ўпэўнена і яго дзейнасць зараз будзе скіроўвацца найперш на барацьбу са злачыннасцю і патрыятычнае выхаванне, якое было і застаецца неад'емнай часткай глабальнай мэты руху — абароны дзяржаўнасці.

**— Так ці інакш, для вас зноў працягваецца клопатнае, тлумнае жыццё палітыка, а, значыць, зноў не будзе хапаць часу на сям'ю, дзяцей, адпачынак...**

— Мая жонка (дарэчы, яна працуе выхавальніцай у дзіцячым садку, вучыць дзяцей беларускай мове) і мае дзве дачкі-школьніцы ў курсе ўсіх маіх спраў, вераць у мяне і падтрымліваюць. Вядомая рэч, клопатаў зараз прыбавіцца, але свой выбар я зрабіў даўно і свядома.

*Гутарыла Людміла КЛАСКОЎСКАЯ.*

Ці Вы прыслалі ахвяру на "Беларускі Дайджэст"?

**BELARUSIAN DIGEST**
Беларускі Дайджэст

1086 Forest Hills, SE.
Grand Rapids, MI. 49546-3616
U.S.A.
Phone: (616) 942-0108

Publisher & Editor — Nikolas Prusky
Выдавец і Рэдактар — Мікола Прускі

Belarusian Digest, (ISSN 1079-7696) is published monthly by Belarusian Digest, 1086 Forest Hills, SE. Grand Rapids, MI 49546-3616, U.S.A.
Артыкулы і допісы могуць выяўляць пагляды, з якімі Рэдакцыя не згаджаецца.

# Election results shock everyone

"Minsk Economic News"

*By* ***Yury DRAKOKHRUST***

Belarus is returning to Communism. And in this case, this is not journalistic hype. Two phases of parliamentary elections resulted in the election of 120 deputies, of which 27 were Communists, and 30 the allies of the Communists-the Agrarians. The democratic parties for their part won 2 seats and the most influential of the democratic parties, the BNF, didn't win any. The picture is filled in when you look at those districts where fewer than half the voters came out and the elections were voided. In every district of the capital wherever Communists were on the ballot they received a greater number of votes than their competitors. They themselves did not expect these kinds of results. Before the second round, they were considering a plan to have their supporters not go to the polls in those districts in Minsk where strong candidates from the democratic parties were running. Later they changed their minds and the leader of the BNF Zyanon Paznyak got a smaller share of the vote than his Communist opponent, an unknown factory director. Stanislav Shushkevich likewise came in behind his opponent. The same thing happened all over the country.

Based on the results of the two rounds of voting, no new parliament can be formed. In order to open a new session of parliament, 174 deputies had to be voted in. Only 120 were voted in. The election results from those districts where no deputy was elected is of more than academic interest. There is a serious danger that the second attempt to hold elections, which by law must happen this fall, will again result in an inadequate turnout and the elections will never end. Thus the search is on for alternatives. On May 30, the Presidium of the old but for now still functioning parliament came into session.

On the last day of May, the speaker of the parliament Mecheslav Gryb said that according to the decision of Presidium of the Supreme Soviet, a special session of the old parliament will be called together. The deputies will have a chance to enact a small change in the law concerning the Supreme Soviet. This change will alter the definition of a quorum. It will reduce the number of deputies required to be present to begin work from the 2/3s to 40 percent of the chamber. Mecheslav Gryb announced that this motion has been approved by the President. If this measure is enacted into law, then the 120 deputies just elected are more than enough for the new Agrarian/ Communist parliament to begin functioning. A repeat of the elections could lead to a definite change in the balance of power in the upper house of the legislature. But the results so far, after two rounds of voting, speak volumes.

If the opposition gets 10 percent of the vote, this is what they call a defeat. But zero - this is not a defeat, this is the apocalypse, the end of the entire political system. Judging by the results of the elections one can say that the whole rightwing of the political spectrum will cease to exist.

What has happened here can not be explained by the monopolisation of the mass media or by election fraud. There were abuses as there are anywhere else, but they were not pervasive. Access to the mass media was denied in the course of the election campaign, but it was denied to everyone, including the Communists. And it follows that it is not possible to explain their victory as a result of restricted access to the mass media. It seems that people weren't allowed to continue living under the communist system the way they wanted to. The reforms, and the independence of Belarus, were not the result of the internal development of the country. These things came about because of a whole series of international developments and external pressures. In Belarus, Communism never outlived its usefulness; people looked at the reforms, and then at the retreat from the reforms, as an experiment. They weren't living that bad they said, but why not try the market? It was said that with the market reforms they would begin to live even better. In other words, the societal consciousness saw life under a Communist system as normal, and as the safe option. And when it became clear that they were going to have to pay, and pay a big price for these reforms, the people weren't prepared. In the case of the elections, the Belarusians opted for what they felt was the safest alternative.

The referendum played a key role. The status of the Russian language and the integration with Russia became central themes in the election campaigns. Candidates were evaluated by their attitude to these problems. And after the election results were made public knowledge, a well known phenomenon manifested itself. Everybody wanted to be a part of the majority. The unique election results are explained by this effect. 10-15 per cent of the population have always been supporters of the democratic parties. The results of the election made them waver, and all those who wavered went over to the side of the Communists.

It may be that Belarus will have a practically one party parliament, which in its own time will be the author of many strange scenarios. President Lukashenko always saw the democrats and especially the National Front as his main ideological enemy. But as a result of the elections, the real political centre has moved strongly to the left and the President himself is far from the most extreme. The Communist party can't move into the structures of presidential power. The relationships between the head of the government and the communists have never been congenial. That's why we can anticipate a harsh conflict between the President, a conditional reformer, and the uncompromising Communist majority in Parliament. As one of the leaders of the Communists, Victor Chikin, told me, his party doesn't reject the slogan "All power to the soviets" and aren't backing away from the goal of the abolition of the presidency. It's true that the President has the results of the referendum to counter these slogans: the majority approved of giving him the right dissolve parliament. This vote has a consultative character, but nonetheless this is an trump in the hands of the President. Soon this will end in mutual threats. It is without a doubt true that the President will have serious problems with the communist parliament.

# НА ГОЛЫ КРУЧОК

"ЗВЯЗДА"

Калі б фільм Ю. Азаронка «Дзеці хлусні» не паказалі другі раз, «па просьбах працоўных», я магла б прапусціць гэты «шэдэўр» дакументалістыкі. А паглядзець яго варта. Стужка, яўна заказаная да выбараў і рэферэндуму, даводзіць:

а) што бэнээфаўцы — фашысты, бо гавораць па-беларуску, ладзяць мітынгі і крытыкуюць Прэзідэнта. І ўвогуле, ісці пад бела-чырвона-белымі сцягамі, як сённяшнія нацыяналісты, і знішчаць людзей у вайну, як гэта рабілі акупанты, — адно і тое ж;

б) што толькі БНФ вінаваты ва ўсім, што адбываецца ў Курапатах. Каб іх Пазняк не раскапаў, то не было б і шукальнікаў золата;

в) што нейкай «грамадскай камісіі» лепш ведаць, хто там каго страляў і што адно яе абураюць факты вандалізму;

г) што спяваць беларускі рэп і жаваць гумку на мітынгу — гэта з'явы брыдкія і небяспечныя для грамадства: крыміналам папахвае...

д) што мастакі нацыяналісты не здольныя да стварэння высокамастацкіх твораў, што з іх падсвядомасці лезе чарната і што на Аляксея Марачкіна згубна паўплываў Марк Шагал (чаму не Міхась Савіцкі?);

е) што беларускія маладыя паэты — суцэльная «амаралка» і дэградацыя. У Саюзе пісьменнікаў іншых, мабыць, і няма;

ж) што ўсё зло ў свеце выключна ад беларускасці і ад БНФ, які гэтую беларускасць увасабляе.

Як-небудзь па-іншаму ўспрымаць і каменціраваць гэтую «поделку», па-мойму, проста немагчыма.

Аператар вельмі стараўся, паказваючы твары прыхільнікаў Народнага фронту, валасатыя ногі барда ў шортах і боты С. Адамовіча. Шмат эфірнага часу ўдзялілі і А. Сысу, хаця яго паводзіны сведчаць толькі пра адсутнасць моцнай улады ў Доме літаратара.

Доўга абыгрывалі беларускі рэп. Удала скарысталі мантаж: пад гэты рэп упрысядкі танцуюць нямецкія салдаты. З такім жа поспехам яны маглі б скакаць у кадры пад хор Пятніцкага або ансамбль песні і танца Савецкай арміі.

Беднага нашага абывацеля ловяць літаральна на голы кручок. Прымітыўнейшым мантажом уздзейнічаюць на тую самую падсвядомасць, пра якую казаў у кадры сын М. Савіцкага. Кадр з мітынгу — кадр германскай хронікі часу вайны, буйна твары беларусаў — твары гітлераўцаў. І, як ні дзіўна, падобныя: два вокі, нос, рот...

Адным словам, падтасоўка, разлічаная або на прастачкоў, або на людзей з безнадзейна перакрыўленым светапоглядам. Паказальна і тое, што «абмяркоўвалі» фільм апалагеты таго ж спецыфічнага грамадскага кірунку разам з Ю. Азаронкам. Сябе хіба будзеш ганіць?..

Чаму фільм названы «Дзеці хлусні», я, здаецца, зразумела. Хлусяць у ім самі стваральнікі. Паралелі, якія механічна выстройвае рэжысёр, не пацвярджаюцца жыццём, фактамі, канкрэтнымі ўчынкамі тых, каго так ненавідзяць ворагі беларушчыны. Ну, а п'янтосаў і «шызікаў» можнаназнімаць у любой краіне, гэтага дабра паўсюль хапае, і неабавязкова «прышпільваць» іх да беларускай — выпакутаванай і несмяротнай — ідэі.

**Галіна КАРЖАНЕЎСКАЯ.**

# З завязанымі вачамі і спутанымі нагамі на баксёрскім рынгу перамагчы нельга!

"Народная газета"

З лідэрам Беларускага народнага фронту Зянонам Пазьняком гутарыць аглядальнік "Народнай газэты" Сяргей Плыткевіч

**— У сродках масавай інфармацыі, а таксама з вуснаў некаторых палітыкаў і дзяржаўных дзеячаў прагучала, што Беларускі народны фронт пацярпеў на выбарах сакрушальнае паражэнне. Вы згодны з такой ацэнкай? І наогул, чаму, на вашу думку, ніводзін прадстаўнік БНФ не стаў дэпутатам?**

— У тых антыдэмакратычных, крымінальных умовах, у якіх адбываліся так званыя выбары, кіруючы рэжым поўнасцю "перамог" Народны фронт. Дакладней, аўтарытарны рэжым перамог дэмакратыю. Не прайшоў ні адзін кандыдат ад БНФ, больш таго, заблакіраваныя ўсе кандыдаты ад дэмакратычных партый, не адбыліся выбары ў Мінску і ў вялікіх гарадах. Прапусцілі толькі 119 дэпутатаў з 260 — у асноўным старшынь калгасаў. Новы парламент не выбраны. Стары Вярхоўны Савет, наменклатурная большасць якога *падтрымала прэзідэнцкі путч 12* красавіка і сілай расправілася з апазіцыяй, дэмаралізаваны. Ну чым не "сакрушальная перамога" рэжыму ды яшчэ і пад чырвоным бальшавіцкім сцягам, які зноў пераможна развяваецца над Домам урада і былым будынкам ЦК КПБ? Цяпер толькі кіруй і вядзі ў светлую будучыню.

Паражэнне можна пацярпець на дэмакратычных выбарах, калі выконваюцца законы, паважаюцца дэмакратычныя нормы, правы чалавека, свабода інфармацыі, Канстытуцыя і тым самым ствараюцца роўныя ўмовы для ўсіх, а выканаўчая ўлада не ўмешваецца ў выбарчы працэс. Калі вам, напрыклад, завязаць вочы і, спутаўшы ногі, выпусціць на баксёрскі рынг, вы вядома ж прайграеце. Калі сродкі масавай інфармацыі сканцэнтраваны ў руках кіруючай прэзідэнцкай групы, а выканаўчая ўлада вытварае што захоча, тады перамагае адзін кіруючы рэжым, прадаўжаючы тым самым дзяржаўны пераварот. Тыя, што яго зрабілі і робяць, спрыяюць захопу Беларусі Расіяй, *знішчаюць наш* суверэнітэт, падрываюць асновы дзяржавы.

**— Ці паўздзейнічалі на вынікі выбараў рэферэндум і тыя прапагандысцкія акцыі, якія праводзіла прэзідэнцкая каманда, як, напрыклад, фільм "Нянавісць"?**

— Мяркую, што асаблівага ўздзеяння на выбары рэферэндум не меў, хоць пэўным чынам актывізаваў камуністычныя і антыбеларускія колы. Вялікі ўплыў на вынікі выбараў зрабіла афіцыёзная прапагандысцкая палітыка хлусні, накіраваная супраць Народнага фронту (фільм "Нянавісць", выступы Прэзідэнта па тэлебачанні па тры гадзіны ў эфіры і г.д.). Частка той паловы насельніцтва, што не вызначылася, ці знаходзіцца ў стане *апатыі, бязвер'я, абыякавасці,* ці якая "ні за каго", пасля прагляду фільма прагаласавала супраць кандыдатаў Народнага фронту. Уласна кажучы, цвёрды электарат Народнага фронту і камуністаў ужо вызначаны. Гэта ў сярэднім па 20 працэнтаў з аднаго і другога боку. У дэмакратычных, роўных умовах змаганне павінна было б ісці якраз за галасы астатніх 60 працэнтаў выбаршчыкаў. Ва ўмовах, што склаліся на Беларусі, рэжым забяспечыў аднабаковую перавагу камуністам, "вертыкальшчыкам" і старшыням калгасаў.

**— Які, на ваш погляд, зараз існуе законны выхад з таго палітычнага тупіка, у якім апынулася Беларусь?**

— Выконваць Канстытуцыю, законы, ажыццявіць фінансава-крэдытную і эканамічныя рэформы і, галоўнае, праводзіць унутраную і знешнюю палітыку зыходзячы з нацыянальных інтарэсаў беларускай дзяржавы.

**— А як будзе дзейнічаць БНФ?**

— На апошніх соймах БНФ і партыі БНФ 10 чэрвеня былі падрабязна разгледжаны і прадыскутаваны задачы арганізацыі ва ўмовах недэмакратычнага аўтарытарнага існавання.

Стратэгія застаецца нязменнай. Гэта — Адраджэнне. У практычнай дзейнасці галоўная ўвага будзе звернута на злучэнне ўсіх здаровых палітычных сіл Беларусі, якія стаяць на грунце незалежнай дзяржавы. Трэба ратаваць Бацькаўшчыну. Неабходна будзе прарваць інфармацыйную блакаду шляхам аб'яднання пэўных беларускіх палітычных элітаў. На ніжэйшых узроўнях прапанаваны кантактны падыход да людзей, прадугледжана арганізацыйнае ажыўленне сатэлітных структур. Мяркуецца таксама ўмацаваць арганізацыйнае ядро БНФ, выкарыстаўшы партыйны "парасон". Асаблівая ўвага будзе таксама звернута на дэмакратычную салідарнасць з дэмакратамі ўсіх зацікаўленых краін.

Новая задача, якая заканамерна ўзнікла пасля ўсталявання *рэжыму і перамогі* яго на выбарах, — прадухіленне расколу ў шэрагах БНФ, утварэння амбіцыёзных груп, дзейнасці агентуры ўлады, апатыі, дэзарыентацыі і гэтак далей.



чага іншага — не мае значэння, але не прызнаць такое нельга: ён умее дакрануцца да чалавечых душ, ён умее размаўляць са "сваім народам".

У мяне няма сумненняў у ягоных шчырых намаганнях зрабіць народ Беларусі шчаслівым.

Але!

Замбіраваны народ прагаласаваў за дзяржаўнасць рускай мовы, новыя сцяг і герб.

Народ, які існуе ў беззаконнасці сотні гадоў; народ, які згубіў у войнах і рэпрэсіях лепшых сваіх сыноў і дачок; народ, які страціў гістарычную памяць; народ, які ў большасці сваёй сёння існуе ў жабрацтве і безвыходнасці, у апатыі і цемрашальстве, у п'янстве і зладзействе, у роспачы і страху; народ, які гістарычна прызвычаіўся да бізуна і рабства; народ, які разарваны рэлігійнымі плынямі; народ, культура, мова і свядомасць якога прыгняталіся на працягу стагоддзяў з аднаго боку Расіяй, з другога — Польшчай... Народ, які зблізіўся да ступені бомжаў... Сёння дэпутатаў, на вялікі жаль, выбіраюць бомжы.

І на рэферэндум прыйшлі людзі "Без Определенного Места Жительства": ці то ў Беларусі яны жывуць, ці то ў Расіі? Ці ў БССР, ці ў Савецкім Саюзе?

Хіба заўсёды гэты народ можа прыняць **разумнае рашэнне для будучых пакаленняў беларусаў?**

Зараз паўсюдна гавораць пра перамогу Прэзідэнта. Хіба перамогу аднай часткі народа над другой можна абазначыць словам "перамога"?

Народу без нацыянальнай ідэі наканавана гібель.

Хіба "барацьба з жулікамі" можа быць нацыянальнай ідэяй? Хіба новыя (старыя камуністычныя) сцягі і гербы могуць нешта дадаць да нацыянальнай ідэі?

Калі гаварыць пра народ, нельга забывацца і пра чыста славянскую традыцыю жыць, у асноўным, пачуццямі, а не розумам. Адсюль страх перад тыранамі, любоў да ўбогіх, спагада да алкаголікаў, нават забойцаў, цярпенне пры савецкім часе да дурняў і маразматыкаў на троне... І адначасова з гэтым непавага да людзей думаючых, да інтэлігенцыі, да "чалавека ў капелюшы". І яшчэ адна плебейская формула — таксама з савецкіх часоў — "народ корміць інтэлігенцыю"... "Гэтыя дармаеды!" Якое глупства. Гэта інтэлігенцыя корміць народ, бо рух жыцця ідзе ад розуму (калі ён ёсць), ад навукі, ад мастацтва (жыццё душы), ад рэлігіі...

Такая "дробязь": хутка будзе год прэзідэнцкага праўлення на Беларусі, а ў Кабінеце Міністраў дагэтуль няма афіцыйна зацверджанага міністра культуры.

Культура — адзіны сродак, каб натоўп ператварыць у народ, адзіны сродак, каб вылечыць народ — гістарычнай памяццю, мудрасцю, асветай, асцярожнасцю, любоўю, непарушальнасцю законаў, згуртаванасцю людзей, добразычлівай уладай, нацыянальнай ідэяй...

**Але ж не такімі "лекамі"**, як рэферэндум аб мовах і новых дзяржаўных сімвалах. Я асабіста ўспрыняў гэта як абразу, бо ведаў гістарычныя факты: герб "Пагоня" існуе з 13-га стагоддзя, беларускую мову паўсюдна знішчалі апошнія 200 гадоў, таму сёння яна аслабленая, хворая, ёй карыстаецца меншасць насельніцтва, і пры дзяржаўным існаванні на роўных з рускай мовай **беларуская мова загіне.**

На Беларусі застаўся ўсяго адзін працэнт чыстага экалагічнага асяродку. Адзін працэнт ад ўсёй плошчы! Пачаўся адлік ахвярам чарнобыльскага вампіра, вучоныя прадказваюць, што асноўнае "жніво" пачнецца ў другім і трэцім пакаленнях. І беларуская мова патрэбна не столькі для таго, каб пісаць дзяржаўныя акты, выкладаць матэматыку і спяваць песні. Яна патрэбна ў першую чаргу **для захавання нацыі.** Нацыя, якая гэтага не разумее, — **нацыя самазабойцаў.**

Магчыма, мы перажываем эпоху, падобную на тую, калі зніклі народы майя і ацтэкі, калі туркі знішчылі Візантыю. (Гэтая навала сёння не толькі ў нас. Вазьміце Грузію...) Падобнае на зямлі адбывалася не раз. І праз сто гадоў чалавецтва пра гэта забывала.

Страшэнна горкая думка прыходзіць у галаву: калі нацыя такая сляпая і глухая, то яна і не вартая лепшай долі...

Я не хачу нікога крыўдзіць. Мне заўсёды шкада людзей. Мне цяжка сёння вызначыць, хто мае большую рацыю: "усходнікі" ці "заходнікі", але мне не даспадобы, калі мяне некуды цягнуць за вушы, забыўшыся, што **суверэнная дзяржава павінна жыць сваім розумам і чужой нафтай.** Нам жа прапануюць **сваю нафту і чужы розум.**

Таму адзіная ў мяне просьба да падманутых "кухарчыных дзяцей": думайце, дарагія мне людзі, калі будзеце глядзець на ўсход, не спыняйце, калі ласка, свой позірк толькі на Маскве ці Сібіры, дзе нафта і газ... Глядзіце далей, на Далёкі Усход, дзе выміраюць чукчы, бо гэта, магчыма, і наш лёс.

Лёс беларусаў.

**Віктар ДАШУК,**
**кінарэжысёр, народны артыст Рэспублікі Беларусь, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі СССР.**

**Ад рэдакцыі.** Многія аўтары, пераступаючы парог рэдакцыі, з выклікам пытаюцца: "Вы не пабаіцеся надрукаваць мой артыкул?" Чуць такое супрацоўнікам рэдакцыі не вельмі прыемна, можна падумаць, што зараз на кожным паверсе ўлады выставілі па аўтаматчыку і ў кожным кабінеце пасадзілі цэнзара.

У рэшце рэшт,свабода слова залежыць нават не ад улад, а ад таго, ці ёсць некаму нешта сказаць. Разумнае заўсёды знойдзе свайго чытача і слухача. Мы друкуем сёння палемічны артыкул В.Дашука, хоць ён перакананы, што ў краіне ўведзена жорсткая цэнзура.

Гэта права народнага артыста так думаць, гэта права грамадзяніна выказваць любую думку. І было б проста нячэсна рабіць выгляд, што такіх думак не існуе.

# *КАРОТКАЕ ІНТЭРВ'Ю З МІНІСТРАМ АХОВЫ ЗДАРОЎЯ БЕЛАРУСІ*

**Зусім нядаўна будучы ў Менску, я наведаў некалькі прэстыжнадзяржаўных установаў, шпіталяў, Менскі мэдычны інстытут, Міністэрства аховы здароўя і інш. У міністэрстве аховы здароўя, пры сустрэчы з міністрам Спадарыняй І. М. Драбышэўскай (дарэчы высока інтэлігентнай і вельмі прыгожай жанчынай) я ўзяў мініінтэрв'ю, якое і прапаную тут нашым чытачам:**

***Спадарыня Міністр! Ці маглі-б Вы, калі ласка, коратка расказаць пра стан аховы здароўя на Беларусі?***

Пагоршанне эканамічнай сытуацыі ў Беларусі, зьніжэньне узроўню жыцьця большасьці насельніцтва адбілася і на стане аховы здароўя.

Недастатковае фінансаваньне ў памеры 2-х трыльлёнаў беларускіх рублёў мела вынікамі скарачэньне выдаткаў на харчаваньне хворых, якія знаходзяцца на стацыянарным лячэньні, на закупку лекавых сродкаў, мэдыцынскага інструмэнтарыя, дыягнастычных сродкаў, бялізны і пасьцельных рэчаў, а таксама на капітальнае будаўніцтва і капрамонт установаў.

У парушэньне існуючых санітарна-гігіенічных нормаў павялічваюцца тэрміны выкарыстаньня пасьцельнай бялізны і гаспадарчага інвентару. У старых і авырыйных будынках знаходзяцца 29 гарадзкіх бальніц і паліклінік, 7 раённых, 37 вучастковых бальніц, 43 амбулаторыі і каля 200 фельчарска-акушэрскіх пунктаў. Стан фінансаваньня зьвязаны ня толькі з інфляцыяй, але і з састарэлым мэнталітэтам, што яшчэ існуе ў нашай краіне.

Фактычна да сыстэмы аховы здароўя падыходзяць і пакуль што яе разглядаюць не як галіну народнай гаспадаркі, якая павінна фармаваць здароўе здаровых і аказваць кваліфікаваную дапамогу хворым, а проста як сфэру абслугоўваньня і чыста мэдыцынскую праблему.

***Хацелася-б пачуць больш дакладна, больш дэтальна пра справу забясьпячэньня Беларусі мэдыкаментамі...***

Фармацэўтычная прамысловасьць Беларусі ўяўляе собой чатыры заводы, якія выпускаюць вузкую наменклатуру лекавых сродкаў, што забясьпечваюць сыстэму аховы здароўя на 8 – 10 працэнтаў. Усе астатнія мэдыкаменты, –а сёньня мы лічым жыцьцёва неабходнымі каля 270 назваў – даводзіцца купляць дзяржаве ў блізкім і далёкім замежжы. Лекі для ільготнай катэгорыі насельніцтва (дзеці, інваліды, вайскоўцы і г. д.), а таксама для стацыянарных хворых вылучаюцца за кошт дзяржаўных сродкаў. Гэта істотным чынам адбіваецца на бюджэце аховы здароўя. Увогуле забясьпечаньне нашых мэдыцынскіх устаноў мэдыкаментамі з улікам гуманітарнай дапамогі не перавышае 45 – 48 працэнтаў ад неабходнай.

У другім паўгодзьдзі сёлета нам выдзяляць крэдыт Сусьветнага Банку на 15 мільёнаў даляраў ЗША. Лічу, што да канца 1995 года гэта некалькі зьнізіць напружанасьць у забясьпечаньні лекавымі сродкамі насельніцтва нашай рэспублікі.

***Ці адбыліся, за апошні час, нейкія рэформы ў сыстэме аховы здароўя, каб прыблізіць ваша міністэрства да стандартаў заходняе мэдыцынскае навукі ды тэхналёгіі?***

Праводзіць рэформы ў ахове здароўя ва ўмовах інфляцыі без правядзеньня значных рэформаў у эканоміцы дзяржавы практычна вельмі складана і цяжка. Тым ня менш, Міністэрства аховы здароўя за апошні час правяло рэформу сыстэмы забесьпячэньня лекавымі сродкамі. Яна яшчэ далёкая ад аптымальнай, але значна лепшая, чымсьці была. Мы прыступілі да рэфармаваньня сыстэмы пярвічнай мэдыцынскай дапамогі і стварэньня інстытуту ўрача агульнай практыкі. Мы лічым, што ўрач агульнай практыкі павінен стаць асноўнай фігурай у аказаньні пярвічнай мэддапамогі. Дзеля гэтага ў Менскім мэдінстытуце пачалася ўжо падрыхтоўка ўрачоў агульнай практыкі, а ў Гарадзенскім мэдінстытуце – мэдыцынскіх сёстраў з вышэйшай адукацыяй.





Трэба адзначыць і тое, што нягледзячы на цяжкое эканамічнае становішча, на сродкі дзяржаўнай і гуманітарнай дапамогі ў Менску быў адкрыты цэнтр па трансплантацыі костнага мозгу. Аналагічны цэнтр для дзяцей будуецца ў пасёлку Бараўляны. У Гомелі адкрыты цэнтр сучаснай мікрахірургіі вока. У клініках Менску, Гомеля, Віцебска, Гародні пачалі шырока выкарыстоўваць у практыцы хірургіі сучасныя малатраўматычныя мятодыкі і абсталяваньне.

***Якія галоўныя праблемы непакояць Вас найбольш у сыстэме аховы здароўя Беларусі?***

Адна з найбольш актуальных праблем сучаснасьці – праблема нараджальнасьці. У нас на Беларусі не ўзровень сьмяротнасьці, а менавіта ўзровень нараджальнасьці вызначае колькасьць насельніцтва, яго ўзнаўленьне, магчымасьць папаўненьня працоўных рэзэрваў. Падзеньне нараджальнасьці за апошнія тры гады ў краіне складае 13,7 працэнты. Гэта абумоўлена зьніжэньнем узроўню жыцьця насельніцтва, няўпэўненасьцю ў заўтрашнім дні, складанасьцямі ў забесьпячэньні дзяцей рацыянальным харчаваньнем ды іншымі прычынамі. Несумненна, вялікі ўплыў аказвае на нараджальнасьць унутрасямейнае рэгуляваньне колькасьці дзяцей. У адрозьненьне ад іншых разьвітых краінаў у нас найбольш распаўсюджана штучнае перарываньне цяжарнасьці. На 120 – 128 тысяч родаў, што прымаюць штогод у рэспубліцы, прыпадае болей за 100 тысяч абортаў.

Праблемы аховы здароўя, зьвязаныя з нараджальнасьцю, здароўем дзяцей і мацярок, зьяўляюцца найбольш актуальнымі для краіны на сучасным этапе.

***Як выглядае супрацоўніцтва Вашага міністэрства з Захадам і Ўсходам?***

Самыя цесныя дзелавыя кантакты склаліся ў нас з Сусьветнай арганізацыяй аховы здароўя (СААЗ). Для аб'ектыўнай і непрадузятай ацэнкі ўплыву вынікаў Чарнобыльскай аварыі на рост паталёгіі шчытападобнай залозы Міністэрства аховы здароўя сумесна з Эўрапейскім бюро СААЗ распрацавала і пачало ажыцьцяўляць міжнародны праект па шчытападобнай залозе. Прадаўжаецца сумесная праца з Эўрапейскім бюро СААЗ па праблемах мацярынства і дзяцінства, барацьба з інфэкцыйнымі хваробамі, сястрынскай справе. Пасьпяхова прадаўжаецца сумесная праца згодна дамовы з Нацыянальным істытутам аховы здароўя ў горадзе Бэтэзда (ЗША) па праекту "Вывучэньне рака шчытападобнай залозы і іншых тырэоідных захворваньняў у Беларусі пасьля Чарнобыльскай аварыі".

Актыўнае і ўзаемавыгоднае супрацоўніцтва ажыцьцяўляецца і з нашымі суседзямі: Польшчай, Літвой, Украінай і Расіяй. З гэтымі дзяржавамі ў нас падпісаны дамовы аб супрацоўніцтве. Вядзецца падрыхтоўка і ўзгадненьне дамоў аб супрацоўніцтве з міністэрствамі аховы здароўя Румыніі, Малдовы і Ізраіля.

***Вашая асабістая апінія пра справу рэфэрэндума...***

У даным выпадку лічу, што ня трэба выказваць сваю думку, якая-б яна ні была. Я – дзяржаўны чалавек, і для мяне воля народа – гэта закон. Мяркую, што з інфармацыяй па выніках рэфэрэндуму вы азнаёміліся.

***Ці не маглі-б Вы сказаць нешта Беларусам ЗША, Канады ды іншых краін Захаду?***

З вялікай павагай і ўдзячнасьцю стаўлюся да беларускай дыяспары за мяжой, да тых, хто з любоўю і адданасьцю захоўвае беларускую культуру, праяўляе цікавасьць і клопат аб народзе Беларусі. Хачу выказаць шчырую ўдзячнасьць за гуманітарную дапамогу і пажадаць усім моцнага здароўя і дабрабыту.

*Інтэрв'ю ўзяў Мікола Прускі*

РАІМ ПРАЧЫТАЦЬ

# ГІСТОРЫЯ БЕЛАРУСІ: НОВЫЯ СТАРОНКІ

"ЗВЯЗДА"

У апошнія гады значна ўзрасла цікавасць да гістарычнага мінулага беларускага народа. Прычым не толькі да сівой даўніны, але і да гісторыі Беларусі XX стагоддзя, да гісторыі, якая прайшла на вачах старэйшага і сярэдняга пакаленняў грамадзян. Як і раней, з прычыны свайго геапалітычнага становішча, Беларусь часта аказвалася ў цэнтры бурных падзей нашага стагоддзя, пачынаючы з першай сусветнай вайны і дзвюх рэвалюцый 1917 года і канчаючы першымі трыма гадамі існавання суверэннай беларускай дзяржавы. З аднаго боку, наша гісторыя — самаадданая праца народа і нядрэнны яе плён, з другога — цяжкі і складаны шлях, у якім шмат нястач, трывог і пакут. Чытачы даўно чакалі кнігі праўдзівай і аб'ектыўнай, якая б паказвала не толькі станоўчыя старонкі нашай гісторыі, не толькі нашы поспехі, але і адмоўныя бакі жыцця народа, недахопы, праліку і злачынствы Сталіна і яго памагатых супраць беларускага народа.

Цяпер мы можам упэўнена сказаць: такая кніга ёсць. Гэта другая частка «Нарысаў гісторыі Беларусі» (галоўны рэдактар М. П. Касцюк), якая выйшла ў гэтым годзе ў выдавецтве «Беларусь». Яна раскрывае адзін з самых цікавых перыядаў гісторыі Беларусі, які ахоплівае 77 гадоў — ад Лютаўскай рэвалюцыі 1917-га да сённяшніх дзён.

Цікавая і па-новаму багатая крыніцазнаўчая база рэцэнзуемага выдання. Гэта новыя архіўныя матэрыялы з фондаў Дзяржаўнага архіва Расійскай Федэрацыі, Расійскага цэнтра захавання і вывучэння дакументаў навейшай гісторыі, Расійскага дзяржаўнага ваеннага архіва, Цэнтральнага дзяржаўнага архіва народнай гаспадаркі Расійскай Федэрацыі, Беларускага дзяржаўнага архіва, Нацыянальнага архіва Рэспублікі Беларусь, невядомыя шырокаму чытачу крыніцы на польскай і англійскай мовах, ваенныя мемуары нямецкіх генералаў Ф. Гальдэра, Г. Гудэрыяна, Г. Гота, шматлікія статыстычныя крыніцы, многія з якіх захоўваліся ў «спецхранах».

У адрозненне ад большасці літаратуры аб гісторыі 1917—1918 гадоў у другой частцы «Нарысаў гісторыі Беларусі» акцэнтуецца ўвага на праблемах самавызначэння Беларусі. У параўнанні з пяцітомнай «Гісторыяй Беларускай ССР» аўтары кнігі імкнуцца па-новаму і аб'ектыўна аналізаваць працэс абвяшчэння Беларускай Народнай Рэспублікі. Матэрыял раздзела міжволі прыводзіць чытача да вываду, што гэта быў адзін з этапаў у развіцці беларускага нацыянальнага руху, які садзейнічаў стварэнню Беларускай ССР.

На наш погляд, адзін з самых цікавых раздзелаў кнігі — «Пад сцягам пабудовы сацыялізму», асабліва параграфы «Барацьба з «нацыянал-дэмакратызмам», «Драматычны шлях калектывізацыі», «Рэпрэсіі — самае цяжкае злачынства дыктатарскага рэжыму». Аўтарам удалося паказаць пачатак стварэння дыктатарскага рэжыму, валявы парадак значнага паскарэння тэмпаў індустрыялізацыі. Але асабліва жорстка, шалёна і непрадумана вялася калектывізацыя. Важна, што аўтары разглядаюць гэтыя працэсы ў сувязі з развіццём адміністрацыйна-каманднай сістэмы і культу асобы, якія з'явіліся вынікам эвалюцыі савецкага грамадства ў той трывожны час. Выкарыстаўшы мноства невядомых дагэтуль архіўных дакументаў, даследчыкі даволі поўна і ўсебакова адлюстравалі сталінскія рэпрэсіі ў БССР супраць рабочых, сялян, інтэлігентаў, кіруючых партыйных, дзяржаўных, ваенных, гаспадарчых кадраў. Наогул, жыццё беларускага народа ў канцы 20-х—30-я гады разглядаецца з пазіцый невераговднага спалучэння геранчай працы людзей і трагічнага лёсу лепшых сыноў і дачок Беларусі.

Аб навізне падыходаў і прыводзімых гістарычных фактаў можна меркаваць на прыкладзе аналізу раздзела «Беларусь у гады Вялікай Айчыннай вайны». У адрозненне ад папярэдняй гістарычнай літаратуры тут прыводзіцца больш сведчанняў аб падзеях трагічнага 1941 года на тэрыторыі Беларусі. Каштоўнасць гэтага раздзела, на наш погляд, заключаецца ў тым, што яго аўтары ўпершыню спрабуюць — і даволі паспяхова — прааналізаваць сутнасць і асаблівасці палітычнай, ідэалагічнай і ваеннай калабарацыі на Беларусі ў час Вялікай Айчыннай вайны, адзначаюць тры складальныя беларускай калабарацыі. На вялікі жаль, у «Нарысах» не прыводзіцца ніякіх канкрэтных лічбаў, што зніжае вартасць прыводзімага матэрыялу. Чытач мог бы параўнаць колькасць партызан і паліцэйскіх у Беларусі на розных этапах вайны. Між іншым, паліцэйскія гарнізоны ў шэрагу населеных пунктаў Беларусі былі даволі моцным арэшкам для партызан і кантралявалі цэлыя зоны.

Адной з вартасцей раздзела аб Вялікай Айчыннай вайне з'яўляецца спроба асвятлення зусім недазволенай раней тэмы аб паводзінах на тэрыторыі Беларусі атрадаў Арміі Краёвай, аб іх складаных узаемаадносінах з беларускімі партызанамі, спроба аналізу пазітыўнага і негатыўнага ў дзейнасці АК на беларускай зямлі.

Безумоўна, раздзел «Беларусь у гады Вялікай Айчыннай вайны» атрымаўся цікавым і змястоўным. Але разам з тым нельга не бачыць у ім шэрага недахопаў і недакладнасцей. Вельмі павярхоўна раскрыта пытанне аб палітыцы генацыду, якому прысвечана... аж паўстаронкі. Не прыведзена колькасць канцэнтрацыйных лагераў і гета на тэрыторыі Беларусі, хоць гэтыя лічбы прыводзяцца ў работах даследчыкаў, не кажучы ўжо пра энцыклапедыі і розную даведачную літаратуру.

На стар. 265-й гаворыцца: «Мінулая вайна была катастрофай сусветнага маштабу, толькі для народаў Еўропы яна каштавала 50 млн. чалавек забітымі... Больш паловы гэтых страт — 27 млн. забітых... прыпадалі на долю Савецкага Саюза». Але ж гэта недакладна. Калі была вызначана лічба ў 50 млн. забітых, мелася на ўвазе, што ў СССР загінула 20 млн. чалавек, а не 27 млн.

Навізной падыходаў, пераасэнсаваннем вядомага і прыцягненнем новага фактычнага матэрыялу вызначаюцца параграфы «Ад культу асобы да спроб дэмакратызацыі грамадска-палітычнага жыцця», «Аднаўленне ў галіне культуры. Працяг ідэалагічнага ўціску», «Палітычная адліга і адыход ад яе».

Упершыню ў нашай гісторыі ў кнізе разглядаецца такая тэма, як «Беларуская дыяспара: гісторыя і сучаснасць». Зацікаўлены чытач можа азнаёміцца з матэрыялам аб першай хвалі масавай эміграцыі, яе новай хваляй у міжваенны перыяд, эміграцыяй у гады другой сусветнай вайны, беларускай дыяспарай у 1946—1994 гадах, новай палітыкай урада нашай рэспублікі ў адносінах да беларускай дыяспары ў апошняе дзесяцігоддзе.

Шматгадовая плённая праца калектыву вучоных Інстытута гісторыі АНБ прынесла добрыя вынікі. Створана цікавая і змястоўная праца, у якой навукоўцы ўмела спалучаецца з папулярнасцю. Безумоўна, яна стане карысным і каштоўным дапаможнікам для студэнтаў вышэйшых навучальных устаноў Беларусі, для ўсіх, хто цікавіцца гісторыяй сваёй Бацькаўшчыны.

**Эмануіл ІОФЕ,**
**доктар гістарычных навук.**

Вместо футбольной рецензии

# В среду я увидел настоящих патриотов!

**Футбольный матч сборных команд Беларуси и Голландии сам по себе не мог оставить равнодушными миллионы белорусов. А блестящая победа над грандами европейского и мирового футбола — тем более. Громадное вам спасибо, ребята, и примите еще одно восхищенное поздравление! Большое спасибо всем вам, и особенно тренерам Сергею Боровскому и Вениамину Арзамасцеву, и за то, что вопреки официальному шабашу, устроенному в нарушение законов нашей страны титенковыми и прочими вертикальщиками, вы вывели свою команду на поле в форме с истинно национальной и тогда еще государственной, конституционной символикой. Уверен, что, наряду со многими другими слагаемыми славной победы, она также вдохновляла спортсменов на их, без всякого преувеличения, игровой подвиг.**

**А когда операторы переводили свои камеры на трибуны минского стадиона «Динамо», то там можно было увидеть целое море бел-чырвона-белых сцягоў! Вот они, настоящие патриоты своей Беларуси! Они дали достойный ответ потерявшим ощущение реальности пенсионерам, которые сказали «да» во время навязанного президентом абсолютно незаконного и опустошительного для их же собственных карманов референдума о символике. Может быть, они когда-нибудь поймут, что проголосовали за облегчение кошелька среднестатистического белоруса на полтора миллиона рублей в каждом отдельном случае.**

**А минские болельщики продемонстрировали настоящий, искренний, а не заказной патриотизм, отвесив оглушительную оплеуху диктаторскому режиму, эхо которой гораздо сильнее, чем от пощечины Николая Статкевича режиссеру Азаренку за его лживый и грязный фильм. В обоих случаях это джентльменский поступок, в одном — индивидуальный, в другом — коллективный, массовый. А все это вместе взятое неопровержимо свидетельствует: жыве Беларусь, пока есть настоящие патриоты!**

***Владимир ЗВЕРНИК, заместитель председателя Партии здравого смысла***

* * *

**Пад час футбольнага матчу «Беларусь — Галандыя» шмат балельшчыкаў прыйшлі на стадыён з бел-чырвона-белымі сцягамі. Міліцыянты падыходзілі да іх і патрабавалі «спрятать этот флаг в сумку». Добра, што не спаліць. Але людзей са сцягамі аказалася ў шмат разоў больш, чым «вартавых парадку», таму намаганні апошніх не мелі асаблівага поспеху, і футбольнае свята прайшло, як мае быць. А беларуская зборная, як вядома, перамагла адну з наймацнейшых камандаў свету.**

***Ігар АНДРЭЙЧАНКА***

"Беларуская Маладзежная"

**СЦЯГ**

Пабыў нядоўга у гасцях
Наш бел-чырвона-белы сцяг,
Яшчэ на шапцы і пагоне
Пакуль трымаецца Пагоня,
Бо коннік дзіўнае красы
Усё ж не горш за каласы.

*С. Грахоўскі*

Пункт погляду

# Новая сацыял-дэмакратычная партыя. Ці магчыма гэта?



13 чэрвеня ў "Народнай газеце" змешчана гутарка з дэпутатам Вярхоўнага Савета Леанідам Сечкам. Паважаны парламентарый сказаў: "Вельмі важна, каб маятнік (грамадзянскіх настрояў. — **Аўт.**) не разгойдваўся ад аднаго краю палітычнай прасторы да другога. Я стаяў і стаю за ўмацаванне палітычнага цэнтра для падтрымкі стабільнасці". Далей ён як член Партыі народнай згоды заявіў: "Мы прапануем пачаць кансалідацыю цэнтрысцкіх сіл, ісці да стварэння ў Беларусі саліднай сацыял-дэмакратычнай партыі. Па меншай меры паўдзесятка цэнтрысцкіх партый маглі б пераадолець групавыя або асабовыя амбіцыі, аб'яднацца на платформе сацыял-дэмакратыі".

Дзеля справядлівасці трэба сказаць, што ПНЗ яшчэ ў 1992 годзе прапаноўвала Беларускай сацыял-дэмакратычнай Грамадзе заключыць пагадненне аб супрацоўніцтве. Яно было складзена, заставалася яго толькі падпісаць, але шмат хто з сацыял-дэмакратычных лідэраў паддаўся ціску з боку БНФ. Зрэшты, БНФ заўсёды імкнуўся не дапусціць саюзу цэнтрысцкіх сіл. Напрадвесні 1992 года ён у самай грубай форме накінуўся на ідэю блока "Новая Беларусь". Не спадабалася кіраўніцтву БНФ і ідэя блока "Вясна-94". Многія дзеячы БНФ дагэтуль упэўнены, што Пазьняк стаў бы фаварытам на прэзідэнцкіх выбарах, калі б БСДГ і Аб'яднаная дэмакратычная партыя падтрымалі яго, а не Шушкевічаву кандыдатуру.

Я не магу казаць за ўсіх маіх таварышаў па партыі, але ўпэўнены, што блок з БНФ на парламенцкіх выбарах быў палітычнай памылкай сацыял-дэмакратаў. Памылкай хоць бы таму, што БНФ не стрымаў сваё слова і, насуперак дасягнутай дамоўленасці, у немалой колькасці акруг стварыў канкурэнцыю сацыял-дэмакратычным кандыдатам у дэпутаты. Аднак пазбегнуць гэтай памылкі было немагчыма. У многіх у Грамадзе было спадзяванне на сумленнае супрацоўніцтва, на тое, што блок з БНФ прынясе хоць нейкі, ды поспех. Цяпер, як я магу меркаваць, большасць членаў нашай партыі пераканалася, што саюзнікаў трэба шукаць у цэнтры, а не з правага боку.

Беларусь перажывае сітуацыю, у нечым падобную да украінскай. Там на выбарах у Вярхоўную раду дэмакратыя таксама пацярпела паражэнне. І пасля гэтага пачаўся інтэграцыйны працэс. У студзені гэтага года ў адзіную Сацыял-дэмакратычную партыю аб'ядналіся сацыял-дэмакраты, Партыя дэмакратычнага адраджэння Украіны, Партыя правоў чалавека і крымскія дэмакраты. Яшчэ дзве партыі заключылі з СДПУ пагадненне пра альянс. Такім чынам, Украіна мае цяпер даволі моцную левацэнтрысцкую партыю.

Асабіста я перакананы, што аб'яднанне партый і груп, якія прызнаюць прынцыпы дэмакратычнага сацыялізму (дактрыну Партыі сацыялістычнага інтэрнацыянала) — пытанне надзвычай актуальнае. Трэба толькі пераадолець (і пра гэта слушна сказаў дэпутат Л.Сечка) групавыя або асабовыя амбіцыі. У прыватнасці, можа паўстаць пытанне пра лідэра новай беларускай сацыял-дэмакратыі. Ні ў якім разе нельга дапусціць, каб партыяй кіравалі сустаршыні. І ў гэтым дачыненні таксама павучальны прыклад нашых украінскіх сяброў, яны здолелі дамовіцца і маюць старшыню Сацыял-дэмакратычнай партыі.

**Анатоль СІДАРЭВІЧ,**
**сацыял-дэмакрат.**

# КАК ДЕЛИЛИ ПОДАРКИ

"Вячэрні Мінск"

Недавно в микрорайоне Уручье раздавали гуманитарную помощь. Сердобольные англичане прислали нам не новые, но чистые добротные вещи. Для тех, кто ценит качество, а не фасон, они вполне пригодные. Последние несколько лет три депутата Первомайского райсовета постоянно организуют доставку и распределение полученных вещей среди малоимущих граждан района. Обычно английские друзья не требовали никаких отчетов по распределению. Но, наслышавшись о различных махинациях в странах СНГ, на этот раз попросили составить отчет.

И вот английские подарки оказались в микрорайоне Уручье. Здесь живет немало чернобыльских переселенцев, а также бедных старых людей. Здесь же действует и фонд «Уручье», который взялся помогать таким людям. Фонд предложил распределить присланную одежду именно среди бедных стариков. Заранее были расклеены объявления о времени и месте выдачи. И настал час...

Желающих было достаточно, среди них — инвалиды. Всех сначала попросили обязательно дать адрес и фамилию, чтобы составить для англичан отчет. Но, увы, как только раскрыли коробки, про это было забыто. Ухватил тот, кто оказался побойчее. К сожалению, только немногие оставили свои адреса. Очень больно было смотреть на эту суматоху, когда в считанные минуты выгребалось содержимое многих коробок при совсем, мягко говоря, неделикатном поведении.

Мне припомнился один давний эпизод в магазине. Тогда еще был дешевый хлеб, но появились и дорогие батоны. Но вот поздно вечером привезли свежие, дешевые. Покупатели лезли один одному на голову, выхватывали батоны из-под самых рук, сбивали слабейших... Увы, подобное повторяется. Горько и обидно оттого, что многие из нас утрачивают способность «людзьмі звацца» при виде очередного дефицита...

**Валерий ГРИЦУК,**
**народный депутат**
**Первомайского райсовета.**

# Зора і Вітаўт Кіпелі: Беларусы павінны стаць мацнейшымі

***Напрыканцы траўня нас наведалі дэлегаты Другога Міжнароднага кангрэса беларусістаў, вядомыя дзеячы беларускага Адраджэння на эміграцыі Зора і Вітаўт Кіпелі. Інтэрв'ю, якое прапануецца чытачам, — фрагмент нязмушанай гаворкі, што адбылася за «круглым сталом» у рэдакцыі.***

**— Спадары Кіпелі, цікава, з якімі ўражаннямі і настроем вы ад'язджаеце з Беларусі? Чым вас парадавала, а чым засмуціла Бацькаўшчына?**

**Вітаўт К.:** Мы задаволены перш за ўсё тым, што дынамічнае развіццё беларусістыкі, якое пачалося ў 1991 г., працягваецца. Скарынаўскі цэнтр па-ранейшаму трымае лучнасць з беларусістамі ўсяго свету, плануе ў далейшым распрацоўваць праблемы, якія дагэтуль у навуцы не распрацоўваліся. Я таксама, падводзячы вынікі работы секцыі «Беларуская дыяспара» на заключным пленарным пасяджэнні кангрэса, падкінуў ідэю, што нам трэба пачаць вывучэнне беларускіх пасяленняў на Далёкім Усходзе — у Японіі, Кітаі, а таксама ў Марока і Бельгійскім Конга, не кажучы ўжо аб Смаленшчыне і Сібіры, найбольш заселеных нашымі суайчыннікамі. Лічу, што кангрэс папрацаваў вельмі плённа, беларусістыка зрабіла яшчэ адзін крок наперад, і гэта вельмі добра, гэта вельмі радуе. Мы задаволены таксама сваёй паездкай на Гомельшчыну, у прыватнасці, сустрэчай са студэнтамі і выкладчыкамі Гомельскага універсітэта, на якую нас запрасіў яго рэктар сп. Шамялькоў. Так сталася, што тыя пару сотняў беларускіх кніг, якія мы накіравалі ў дар універсітэту, прыбылі туды разам з намі. І нам было гэта вельмі прыемна.

**Зора К.:** Магу дадаць, што мы ўпершыню здзейснілі такое далёкае падарожжа на поўдзень Беларусі. Пабылі ў чарнобыльскай зоне, у Веткаўскім музеі, што, безумоўна, узбагаціла нашы веды. А затым накіраваліся ў вёску Неглюбка, дзе ўмельцы вырабляюць слаўтыя ручнікі. Па дарозе заехалі ў выселеную вёску Варфаламееўку: навокал бязлюддзе, забітыя вокны хат, перад якімі цвітуць яблынькі, падаючы надзею, што жыццё тут будзе працягвацца.

**Вітаўт К.:** У Неглюбку мы паехалі не выпадкова — павяла даўняя гісторыя. Шмат гадоў таму праз беларускіх дыпламатаў мы атрымалі ў Нью-Йорку падарунак ад незнаёмай жанчыны з гэтай вёскі — даматканы ручнік. Яна напісала прыкладна такое: «Беларусам Амерыкі, каб прэзентавалі нашу культуру ў шырокім свеце». І падпісалася: «Тацціяна Дзеранок». Мы тады ахнулі: гэта быў 1968 год, калі аб перапісцы паміж грамадзянамі Савецкай Беларусі і беларусамі-эмігрантамі не магло быць размовы. І мы тады пастанавілі: калі дасць Бог — адшукаем гэтую жанчыну.

**— І адшукалі?**

**Вітаўт К.:** Уявіце сабе, мы яе знайшлі. Цяпер ёй 70 з лішкам гадоў. Удава, жыве ў цяжкіх матэрыяльных умовах, у недагледжанай старой хаце. Заплакала, як даведалася, хто мы і адкуль прыехалі. Гісторыю з ручніком добра памятае. Свой ліст напісала сведама, каб яе ручнік стаў магнітам для людзей. І ён ім стаў. На працягу ўсіх дваццаці пяці гадоў на любой беларускай выставе між сотнямі экспанатаў ён заўсёды быў у цэнтры. Вельмі нам радасна, што мы знайшлі гэтую жанчыну і аддзячылі ёй.

Цяпер вы спыталі пра настрой, з якім мы ад'язджаем. Ён благі. На працягу тыдня да рэферэндуму мы назіралі за яго падрыхтоўкай. Яна, безумоўна, не была дэмакратычнай і далёка не адпавядала вымогам нават законаў Беларусі. А што да яго вынікаў, то што тут сказаць? Мінула 200 гадоў з часу, як Расійская імперыя захапіла Беларусь. Імперскі дух з гэтай зямлі яшчэ не выветрыўся — моцны і цяпер. І калі дэмакратычная апазіцыя пачала дамагацца адраджэння нацыянальнай культуры і дзяржаўнасці на Беларусі, ворагі беларушчыны прынялі адпаведныя захады. Рэферэндум і стаў сімвалам іх перамогі. Але я не лічу, што ідэя беларускага адраджэння пахавана канчаткова. Мы, яе носьбіты, як працавалі, так і будзем працаваць, а ці дойдзе да таго, што зноў узнікне «Северо-Западный край» і самастойнае развіццё нашай дзяржавы перапыніцца, яшчэ невядома. Ясна адно: нацыянальнаму руху беларусаў нанесены цяжкі ўдар. Але ж як у вашай газеце пісалася, беларускай мове амаль тысяча гадоў і знішчыць яе не так будзе лёгка. Таму адчайвацца нельга. Ведама, непрыемна, цяжка, балюча на душы ад учыненага гвалту над мовай і сім волікай, але тыя, хто іх бароніць, а гэта 30—40 працэнтаў насельніцтва, павінны згуртавацца і стаць мацнейшымі.

**— Што Вы можаце сказаць аб так званым рашэнні Расійскай Думы далучыць Беларусь да Расійскай Федэрацыі?**

**Вітаўт К.:** Думаю, што па-імперску настроеныя расійскія палітыкі ўпершыню адчулі, што іх краіна сапраўды пачынае развальвацца, траціць заваяваныя тэрыторыі. Прыклад таму Чачня, дзе вельмі моцныя, пачынаючы ад Шаміля, цэнтраімклівыя сілы. Адсюль і гэта адыёзнае рашэнне як найхутчэй інкарпараваць Беларусь у Расію, ажь ццявіць паўторны яе захоп. Я не падзяляю песімістычную думку, што на гэты раз беларускі народ загіне — растворыцца ў другім этнасе. Прыгадаем даперабудовачны час, які ён быў змрочны і безнадзейны. А пачалася перабудова, і, здавалася, забіты канчаткова наш народ ажыў і даў маладыя парасткі адраджэнцаў. Дасць Бог, народ паразумнее. У Гімне Арсенневай «Магутны Божа» варта б словы, звернутыя да Бога («Зрабі шчаслівым... наш народ»), памяняць на іншыя: «Зрабі разумным наш народ». Калі Лукашэнка змагаўся за пост прэзідэнта, у яго руках быў козыр барацьбіта з карупцыяй. На гэтым лозунгу ён і яго людзі прыйшлі да ўлады. Народ паверыў: варта толькі знішчыць хапуг, карупцыянераў, і жыць стане лёгка. Нацыянальна-дэмакратычны рух не здолеў выпрацаваць платформу, супольную для цэлай Беларусі, сацыяльныя аспекты, хоць і была вельмі добрая эканамічная праграма Заблоцкага, неяк згубілісся.

**— Спадарыня Зора, ці можаце Вы як рэдактар газеты «Беларус» праінфармаваць нас шырэй пра беларускамоўныя выданні ў замежжы?**

**Зора К.:** Калі ласка. У Нью-Йорку, акрамя «Беларуса», выходзяць «Весткі і паведамленні Нью-Йоркскага аддзела Беларуска-Амерыканскага задзіночання» і «Беларуская думка». У Канадзе пакварта льна выдаецца орган беларускіх ветэранаў «Зважай», там жа — месячны бюлетэнь «Царкоўныя навіны»; «Царкоўны светач» выходзіць у Нью-Джэрсі. Гэта орган беларусаў, з'яднаных пад юрысдыкцыяй Канстанцінопальскай патрыярхіі; у Клілўлендзе выходзіць часопіс «Полацак»; у Англіі — «Сіла веры» і «Голас часу», у Аўстраліі — бюлетэнь Федэральнай рады беларускіх арганізацый, лакальны царкоўны бюлетэнь і каляндар-садавік. І гэта далёка не ўсё з таго, што выдаецца на эміграцыі, я назвала.

**— Спадарыня Зора, ці падтрымлівае дыяспара часопіс «Полацак» пасля таго, як у ім адбылася, скажам так, змена кіраўніцтва?**

**Зора К.:** Мы не жывём у Кліўлендзе і адказаць дакладна на пытанне не можам. «Полацак» не мае вялікага значэння для агульнага жыцця беларускай эміграцыі. Ён усяго толькі невялікая дэталька ў гэтым жыцці. Яго атрымліваюць некаторыя падпісчыкі ў Амерыцы, у тым ліку і Беларускі інстытут навукі і культуры. У нас дзесяткі такіх выданняў.

**— На якія сродкі выдаюцца на эміграцыі беларускамоўныя часопісы і газеты?**

**Зора К.:** На мясцовыя сродкі, пераважна на ахвяраванні падпісчыкаў. Дзяржаўнага друку ўвогуле няма на Захадзе. Няма яго і ў Амерыцы. І супрацоўнікі рэдакцый беларускамоўных выданняў нават не атрымліваюць ганарары — працуюць бясплатна і добраахвотна.

**— Спадар Вітаўт, на кангрэсе беларусістаў Вы атрымалі дыплом. Які менавіта?**

**Вітаўт К.:** Я — сябра Міжнароднай Акадэміі навук Еўразіі і дыплом мне ўручыў яе прэзідэнт Яўген Шыраеў.

**— Не даводзілася неяк раней чуць пра гэту акадэмію.**

**Вітаўт К.:** Яна ўтворана пару гадоў назад у Маскве прафесарам Шыраевым з удзелам беларускіх, украінскіх і расійскіх навукоўцаў. Я стаў яе сябрам, паколькі там распрацоўваюцца пытанні міжнацыянальных адносін, канфесійна-этнічных узаемасувязяў, беларусазнаўчая тэматыка.

**— Што Вы можаце сказаць пра работу прэсы ў час кангрэса? Ці былі з ёе прадстаўнікамі ў Вас сустрэчы і гутаркі?**

**Вітаўт К.:** Вельмі шмат, але, на жаль, у друку нічога не з'явілася, акрамя невялічкага — напаўкалонкі, паведамлення ў «Звяздзе». Вельмі асцярожнай стала ваша прэса ў параўнанні з тым, як яна працавала на Першым з'ездзе беларусаў свету ў 1993 г.

**— А як Вас прымалі на гэты раз? Маецца на ўвазе традыцыйная беларуская гасціннасць.**

**Вітаўт К.:** Прымалі вельмі добра. Тэхнічна ўсё было добра арганізавана. У гатэлі «Турыст», лепшым з тых, у якіх нам даводзілася спыняцца раней, выдатная абслуга. Ад фірмы «Дайнова» мы атрымалі сувенірныя папкі з праграмай работы кангрэса. Атрымалі і карткі, на якіх былі распісаны маршруты гарадскога транспарту. І калі аднойчы спазніліся на свой аўтобус, то без праблем даехалі ў Дом настаўніка трамваем.

**— Спадарыня Зора, якія імпрэзы найбольш Вам запалі ў душу?**

**Зора К.:** Выстава ў Нацыянальнай бібліятэцы беларускага друку; бенефіс артыстаў Таццяны Мархель і Віктара Скарабагатава; канцэрт аўтэнтычнага фальклору; выступленні аматарскіх гуртоў, у прыватнасці «Ліцвінаў», у выкананні якіх нам вельмі спадабаўся марш «Вынас каравая». Мы нават замовілі ў кіраўніка гэтага гурта ноты, бо ў Амерыцы традыцыйна беларускія вяселлі заўжды пачынаюцца з «Лявоніхі».

**— Спадар Вітаўт, ці хацелі б Вы сказаць колькі слоў на развітанне?**

**Вітаўт К.:** Хацеў бы. Па-першае, каб выказаць шкадаванне, што «Наша слова» не выходзіла ў свет перад рэферэндумам і выбарамі і дэмакратычны чытач не змог азнаёміцца з прысвечанымі гэтым падзеям матэрыяламі. Паколькі беларускамоўныя выданні не выходзілі, у афіцыйных сродках масавай інфармацыіназіралася аднабаковая прапаганда па старому савецкаму шаблону. І па-другое. Перад ад'ездам з Амерыкі на кангрэс мне пазваніў з Чыкага сп. Латушкін. Тэмай нашай гаворкі стала змешчаная ў «Нашым слове» карэспандэнцыя пра Бялыніцкую суполку ТБМ. Для мяне гэта паказчык, што вашу газету на эміграцыі пільна чытаюць. А паколькі наперадзе шмат працы, мы са спадарыняй Зорай ад сэрца жадаем вам поспехаў.

**Запісала Ірына КРЭНЬ.**

"Наша Слова"

*Уражанні*

**Мікола КАПЫЛОВІЧ**

## Перастараўся

— Даўно гэта было. Гадоў сорак назад. Выклікалі мяне, вясковага хлопца, у райкам камсамола і кажуць: «Будзеш працаваць у нас інструктарам. З выпрабавальным тэрмінам цябе бяром. На месяц. І даём табе першае даручэнне: едзь у калгас імя Варашылава і навядзі парадак там з камсамольскімі ўзносамі. Год ужо варашылаўскія камсамольцы іх не плацяць». Паехаў, сабраў у клубе камсамольскі сход. Кажу калгасным камсамольцам: «За тры месяцы запазычанасці камсамолец аўтаматычна выбывае з камсамола. А вы цэлы год узносы не плаціце. Як гэта так? Па статуце вы ўжо самі сябе выключылі з камсамола». А яны: «У нас грошай няма, каб плаціць узносы. Калгас за працадні за год ні капейкі не заплаціў».

Тады я кулаком па стале: «Зараз жа ліквідуйце запазычанасць! Інакш пакладзяце камсамольскія білеты!» Думаў, напалохаю. Тады і ўзносы заплацяць. Нават чыстую ведамасць з кішэні выняў. А яны падняліся з лавак, падаставалі білеты і ўсе да аднаго паклалі перада мною.

Прыязджаю, вяртаюся ў райкам, высыпаю камсамольскія білеты сакратару на стол і кажу: «Я ўсіх іх з камсамола выключыў. Па статуце. Як злосных неплацельшчыкаў узносаў і сабатажнікаў!» А сакратар паглядзеў на мяне як на вар'ята і пабялеў ад злосці: «Ты, абармот, ліквідаваў камсамольскую арганізацыю ў калгасе! Судзіць цябе мала як ворага партыі і камсамола! Кладзі на стол і свой білет!» Паклаў. І паехаў зноў у сваю вёску гной віламі выкідваць. З калгасных хлявоў.

*ФАРПОСТ*

Звязда

## ВЫВАД РАСІЙСКІХ РАКЕТ ІДЗЕ ПА ГРАФІКУ

Як сказаў у гутарцы з карэспандэнтам «Звязды» начальнік упраўлення грамадска-палітычнай інфармацыі Адміністрацыі Прэзідэнта Уладзімір Замяталін, ніякіх заяў адносна спынення вываду расійскіх ракет стратэгічнага прызначэння з тэрыторыі Беларусі ад Прэзідэнта Аляксандра Лукашэнкі не выходзіла, ніякіх новых дакументаў на гэты конт не прымалася. Тую ж інфармацыю, якую распаўсюдзілі некаторыя расійскія і заходнія сродкі масавай інфармацыі, У. Замяталін назваў інсінуацыямі. Акрамя таго ён зазначыў, што ў бліжэйшы час на гэты конт павінен выказаць сваё меркаванне сам Прэзідэнт Лукашэнка.

Дзяржсакратар Савета Бяспекі Віктар Шэйман у размове з карэспандэнтам «Звязды» зазначыў, што ёсць шмат розных сіл, якія хацелі б кінуць цень на расійска-беларускія адносіны. Ніякага рашэння наконт спынення вываду расійскіх ядзерных сіл з Беларусі не прымалася, дзейнічае дагавор ад 24 верасня 1993 года. Падчас нядаўняга наведвання Беларусі намеснікам камандуючага ракетнымі войскамі Расіі стратэгічнага прызначэння генерал-палкоўнікам Нікіціным абмяркоўваліся толькі недахопы пры вывадзе войск: экалагічны ўрон, пытанні фінансавання будаўніцтва жылых дамоў для расійскіх ваенных пенсіянераў і іншыя, якія зусім не з'яўляюцца нейкімі палітычнымі праблемамі, і будуць вырашацца на ўзроўні Мінабароны дзвюх краін або ўрадаў.

Начальнік Нацыянальнага агенцтва Рэспублікі Беларусь па кантролю і інспекцыях пры Міністэрстве абароны Яўген Нікулін таксама заявіў «Звяздзе», што гэтая тэма — не больш як нядобрасумленная гульня журналістаў. Такіх фактаў, якія б сведчылі аб прыпыненні вываду з Беларусі расійскай ядзернай зброі, — няма. Ёсць графік вываду расійскіх ракет, у адпаведнасці з якім вывад іх павінен завяршыцца ў лістападзе 1996 года. Гэты графік ніхто не адмяняў, і вывад расійскай ядзернай зброі працягваецца.

Тут ёсць толькі адзін нюанс, які і выклікаў, відаць, такія разважанні. Беларускі бок заявіў, што расіяне, пакідаючы нашу тэрыторыю, нанеслі экалагічны ўрон, разбурылі аб'екты і інш. Страты ацэньваюцца ў 15 мільярдаў беларускіх рублёў. Створаны дзяржаўныя камісіі Беларусі і Расіі, якія ў бліжэйшы час павінны разгледзець гэтае спрэчнае пытанне. Як зазначыў Я. Нікулін, у тым, што некаторыя аб'екты на былых базах перадаюцца ў пашкоджаным выглядзе, ёсць віна і беларускіх уладаў, якія не змаглі апаратыўна прыняць усе аб'екты. Яўген Нікулін упэўнены, што Беларусь будзе выконваць міжнародныя абавязацельствы і паспяхова закончыць вывад расійскай атамнай зброі са сваёй тэрыторыі.

**Валер КАЛІНОЎСКІ.**

ЗВАРОТ

Музэй Я. Коласа ў Менску падрыхтаваў кніжыцу "Фальклор Стаўпцоўшчыны". На гэтае выданьне патрэбна $320.оо. Усіх суродзічаў са Стаўпцоўшчыны просім скінуцца на гэтую суму. Грошы перасылаць на адрас нашае Рэдакцыі. Дзякуем!

МЕРКАВАННЕ РУСКАГА ІНТЭЛІГЕНТА

# «СІМПАТЫЗУЮ БЕЛАРУСКАМУ АДРАДЖЭННЮ...»

"Добры вечар"

**II Міжнародны кангрэс беларусістаў, які нядаўна адбыўся ў Мінску, акрамя надзённых пытанняў існавання ды развіцця роднай культуры, аднаўлення сапраўднай гісторыі Бацькаўшчыны, праблем сталявання ў Беларусі гуманітарных навук, абмеркаваў цэлы шэраг тэм з прыстаўкай «між»: міжнацыянальныя канфесійныя, гісторыка–культурныя, моўныя, літаратурныя і другія дачыненні нашага народа з «родзічамі» і суседзямі славянскага і неславянскага паходжання — рускімі, палякамі, украінцамі, літоўцамі, татарамі.**

**На адным з пасяджэнняў секцыі беларуска–расійскіх гістарычна–культурных дачыненняў мне пашчасціла паслухаць даклад вядомага рускага пісьменніка, палітолага, навукоўца з Інстытута міжнародных эканамічных і палітычных даследаванняў Расійскай АН Юрыя СУРАЎЦАВА «Адносіны паміж постсавецкай Расіяй і Рэспублікай Беларусь».**

**У перапынку паміж пасяджэннямі Кангрэса я папрасіў Юрыя Іванавіча адказаць на некалькі пытанняў для чытачоў «Добрага вечара».**

**— Паважаны Юрый Іванавіч! II Міжнародны кангрэс беларусістаў адбываецца ў адказны момант гісторыі Беларусі: вядомы рэферэндум, ініцыяваны нашым Прэзідэнтам, з пытаннямі аб наданні рускай мове статуса роўнай з беларускай, замене дзяржсімволікі, эканамічнай інтэграцыі Беларусі з Расіяй і надзяленні кіраўніка дзяржавы паўнамоцтвамі распускаць Вярхоўны Савет у выпадку парушэння дэпутатамі Канстытуцыі атрымаў поспех. Большасць з тых, хто прыйшоў на выбарчыя ўчасткі, адказалі «так» на ўсе пастаўленыя пытанні. Што Вы мяркуеце з гэтай нагоды ?**

— Дазвольце мне выказаць сваю думку па першых двух пытаннях рэферэндуму... Спадзяюся, што мяне не папракнуць ва «ўмяшанні» ва ўнутранае жыццё дзяржавы-суседкі, дзяржавы-прыярытэта для маёй Расіі, дзяржавы-сястры, калі я скажу, што і як палітолаг, і як рускі інтэлігент дэмакратычнай арыентацыі (як цяпер гавораць пра расколатую інтэлігенцыю) наогул не лічу, што першыя два, а то і ўсе чатыры пытанні вырашаюцца па метаду «большасць заўсёды мае рацыю». Аб гэтым, дарэчы, добра пісаў Віктар Каваленка ў «ЛіМе» перад рэферэндумам.

Адважуся на абагульненне: вынікі рэферэндуму і яго форма не ўмацавалі Беларускае Адраджэнне, а адкінулі яго назад.

**— Вы сімпатызуеце Беларускаму Адраджэнню?**

— Сімпатызую. У тым ліку і перш за ўсё — адраджэнню беларускай мовы, мовы братняга славянскага народа. Нашыя культуры і мовы, калі кожная жыве паўнакроўным жыццём, узаемаўзбагачаюцца, беларуская мова жывіць сваёй лексікай рускую. І вось на табе — апошнюю пераўтвараюць у мову-«агрэсара», якая, жадаем мы таго ці не жадаем, але ў існуючых сёння ўмовах яшчэ больш звузіць сферу ўжывання беларускай. А мне патрэбна, каб ваша мова жыла, развівалася і набірала моцы!

**— У вас ёсць вызначаны погляд адносна беларусізацыі як разумення пэўнага палітычнага працэсу?**

— Калі мець на ўвазе беларускае адраджэнне-самавызначэнне, то, сапраўды, размову трэба весці пра новую беларусізацыю (першую таталітарызм-сталінізм з ягоным фальшыва-інтэрнацыяналісцкім фасадам задушыў у 20-30 гады) — пра беларусізацыю шматбаковую як панацэе, у якім інтэгруюцца і нацыянальна-дэмакратычная суверэннасць, і яе гаспадарчая, знешнепалітычная ды культурная самастойнасць, «ідэнтычнасць» і «бытие» самой беларускай мовы, што, маючы тытул мовы дзяржаўнай, усё роўна не перастала мець патрэбу ў разумнай падтрымцы. Зразумеем ісціну: працэс набыцця і развіцця нацыянальнай свядомасці не ў адной Беларусі праходзіў доўгі, цяжкі шлях (і гэта адносіцца перш за ўсё да народаў, якія складалі па-сапраўднаму неаўтаномныя «часткі» вялікіх дзяржаў, імперый). Вось і беларуская нацыянальная самасвядомасць амаль, хай і не поўнасцю, згубленая ў тым ці іншым перыядзе яе цяжкай і доўгай гісторыі... І сёння... Так, сумна, што быў дадзены гэткі адказ на першыя два пытанні рэферэндуму, але факт застаецца фактам: беларускі народ не бяжыць прыскакам услед за лозунгамі і заклікамі партый нацыянальна-дэмакратычнага спектру. Так, яшчэ большая частка насельніцтва не ўсвядоміла этнакультурнага значэння беларускай мовы. Значная частка — супраць таго, каб гістарычная сімволіка была сімволікай дзяржаўнай. Але ж і адчайвацца не трэба: беларушчына мае першапачатковы «плацдарм» у сэрцах і розумах людзей, адкуль можна весці далейшы рух. Нашчадкі тых, хто знішчаў першае прысавецкае Беларускае Адраджэнне, усё роўна прайграюць. І я ганаруся, што сярод беларускіх «нацдэмаў» 20-х гадоў было шмат рускіх інтэлігентаў, сапраўдных інтэлігентаў-дэмакратаў, якія прысвяцілі свае жыцці служэнню высакароднай справе — менавіта Беларускаму Адраджэнню. Пра іх чамусьці не згадвае прэса тых, хто выступае саюзнікамі — несвядомымі, але і свядомымі, добраахвотнымі! — «неаімперцаў» у цяперашняй Расіі.

**— Так, гаворка можа ісці пакуль толькі пра плацдарм беларусізацыі. Тут я з вамі, Юрый Іванавіч, згодны. Але, мне здаецца, гэтага малавата...**

— Беларускай справе шмат што і шмат хто перашкаджаюць. Мы ў Інстытуце займаліся праблемамі постсавецкай эпохі ў краінах былога СССР, і я шчыра зазначу (хай на мяне не крыўдуюць рупліўцы на адраджэнскай ніве): вашы адраджэнцы не разлічылі свае сілы ды і займаліся больш звонкімі воклічамі, «лозунгізацыяй», чым канкрэтнай і карпатлівай шматбаковай будзённай работай, асабліва ў вядзенні міжнацыянальнай палітыкі. Яны, напрыклад, мелі рацыю, калі крытыкавалі шавіністычна-імперскія перажыткі ў расійскім істэблішменце. Але с ходу ўсё прайгралі, калі бяздоказна пачалі даводзіць беларусам, што рускія — гэта «лапікавы» народ, што ўвесь народ зараджаны імперскім мысленнем. Ну, а паўтара мільёны рускіх, якія жывуць у Беларусі, пагадзіліся з падобнымі характарыстыкамі? Не! Не пагадзіліся, я ведаю, і многія прыкметныя лідэры ў нацыянальна-дэмакратычным руху. Некаторыя з іх, наадварот, высунулі ідэю міжнацыянальнай супольнасці — беларускі народ — на падставе адзінай для ўсіх этнасаў, якія жывуць на тэрыторыі рэспублікі, патрыятычнай ідэі — у яе ідэя Беларускага нацыянальнага Адраджэння ўліваецца, як дамінанта. За сто апошніх гадоў існавання ў складзе Рэчы Паспалітай, за гэтулькі ж — у складзе царскай Расіі, за семдзесят — пад каткам сталінскіх «эксперыментатараў» па зліццю этнасаў і моў — тут было як закамплексаваць мазгі мільёнам і мільёнам. А калі ўлічыць, што маюць месца намаганні як унутры Беларусі, так і ў Расіі па вяртанню вашай рэспублікі ў разрад «часткі адзінага цэлага», то стане зусім зразумела: акрамя нястомнай працы адраджэнцаў на гэтай ніве, яшчэ востра патрэбны час.

Але сур'ёзна памыляюцца, я ўпэўнены, тыя вашы дзяржаўнікі, якія падумаюць, зыходзячы з лічбаў рэферэндуму, што час працуе, маўляў, на дэнацыяналізацыю. Сур'ёзна памыляюцца!

Гутарыў Алесь **МІКАЛАЙЧАНКА.**

## НОВЫ ФРОНТ?

**8 ліпеня ў Мінску праходзіла другое пленарнае пасяджэнне IV з'езда Беларускага народнага фронту.**

**Прагназіраванага расколу не адбылося, дэлегаты з'езда, ўсведамляючы адказнасць перад электаратам за захаванне партыі, выказаліся за яе рэарганізацыю.**

Перадумовы да гэтага закладзены ў абнаўленні саставу кіруючых органаў — сойму і рэвізійнай камісіі. Старшынёй фронту зноў абраны Зянон Пазняк, ён выйграў выбары ў альтэрнатыўных кандыдатаў Юрыя Хадыкі і Міколы Грыцука.

Абрана пяць намеснікаў старшыні: Юрый Хадыка, Сяргей Беленькі, Лявон Баршчэўскі, Станіслаў Гусак і Вінцук Вячорка.

З'езд выступіў з заявамі, у якіх, у прыватнасці, зазначаецца, што праведзены вясною рэферэндум «нельга лічыць сапраўдным волевыяўленнем.

Яго вынікаў ніколі не прызнае свядомая частка народу. Мы перакананыя, што нашае грамадства, пазбавіўшыся савецкіх каланіяльных комплексаў, выправіць ганебнае становішча, у якое загналі Беларусь авантурныя палітыкі. Задача дэмакратычных сіл — памагчы грамадству максімальна наблізіць гэты час».

**Паўлюк КАРНАЗЫЦКІ.**

* * *

11 ліпеня старшыня БНФ Зянон Пазняк і яго намеснікі правялі прэс-канферэнцыю, на якой падвялі вынікі з'езда.

З. Пазняк зазначыў, што найбольш дыскутавалася пытанне аб падзеле БНФ на партыю і грамадскую арганізацыю, аднак фронт паранейшаму застаўся адзінай арганізацыяй са сваімі статутам і структурай, партыя БНФ існуе толькі фармальна, каб забяспечыць палітычную дзейнасць фронту.

«Утварыўся своеасаблівы сімбіёз: фронт — гэта адзіная арганізацыя, якая мае 2 аблічча і фармальна мае ў сабе палітычную партыю», — зазначыў З. Пазняк.

Юрась Беленькі звярнуў увагу на небяспеку для беларускай школы, якую, магчыма, чакаюць змены, што вярнуць яе да правінцыяльнага варыянта з падручнікамі і праграмамі ўзору 1985-86 гадоў. Ю. Беленькі выказаў перасцярогу перад зменамі ў накірунках адукацыі.

Каардынатар апазіцыі БНФ у Вярхоўным Савеце Сяргей Навумчык зазначыў, што дэпутаты ад БНФ вынесуць на разгляд верасьнёўскай сесіі парламента пытанне аб зменах у Закон аб Канстытуцыйным Судзе, якія б далі яму права разглядаць прэзідэнцкія ўказы, а таксама запатрабуюць справаздачы ад выконваючага абавязкі Генеральнага пракурора В. Капітана аб ходзе расследавання факта збівання дэпутатаў 12 красавіка.

**В. КАЛІНОЎСКІ.**

— За што сядзіш?
— За нішто.
— Як гэта за нішто?
— Залез у пусты склад.

## НАМЕСНІК ІВАНА ЦІЦЯНКОВА ЗАСТУПАЕЦЦА ЗА СВАЙГО ШЭФА

"Звязда"

**У рэдакцыю «Звязды» паступіла пісьмо ад першага намесніка кіраўніка справаў Прэзідэнта Беларусі А. Харужыка, у якім ён абураецца маім артыкулам «Ці згуртуюць нацыю новыя сімвалы?» («Звязда», 20 мая г. г.).**

У прыватнасці, т. Харужык звяртае ўвагу на тую частку артыкула, дзе расказваецца, як яго непасрэдны начальнік, паводле паведамлення агенцтва РІД і «Народнай газеты», пры зняцці бела-чырвона-белага сцяга «на даху будынку разарваў яго на кавалкі і, пазначыўшы на іх дату і час «знамянальнай падзеі», распісаўшыся, раздаў бела-чырвоныя кавалкі як сувеніры».

Л. Харужык сцвярджае, што такіх дзеянняў яго шэф не ўчыняў. Больш таго, «факт зняцця з флагштока на Прэзідэнцкім палацы бела-чырвона-белага і ўзняцце новага чырвона-зялёнага сцяга скажоны, паднесены прадузята і аднабакова». Л. Харужык сцвярджае гэта «як сведка, які прымаў удзел у замене сцяга».

У сувязі з патрабаваннем т. Харужыка «разгледзець гэты выпадак грубага паклёпу, не адпавядаючага рэчаіснасці, і прыняць меры па апублікаванню абвяржэння ў газеце» звяртаем увагу паважанага першага намесніка кіраўніка спраў на тое, што інфармацыя ў «Звяздзе» пададзена са спасылкай на РІД і «Народную газету». Відавочна, больш лагічна было б звярнуцца менавіта да першай крыніцы інфармацыі. Зрэшты, як вынікае з паведамлення «Народнай газеты», туды ўжо звярнуўся сам І. Ціцянкоў, які запатрабаваў літаральна таго ж і літаральна ў тых самых выразах. Лексіка адрозніваецца толькі тым, што І. Ціцянкоў просіць разгледзець «выпадак грубага паклёпу», а Л. Харужык — «выпадак грубага паклёпу, не адпавядаючага рэчаіснасці» — што наводзіць на думку, што існуе паклёп, які можа адпавядаць рэчаіснасці...

Зрэшты, мы гатовы папрасіць прабачэння за паклёп любога віду, калі толькі ў судзе будзе даказана яго наяўнасць. Пакуль што, як паведаміла тая ж «Народная газета», у пракуратуру краіны працягваюць паступаць заявы ад грамадзян, у якіх сцвярджаецца адваротнае таму, пра што напісаў у «Звязду» т. Харужык.

**Валянцін ЖДАНКО.**

## КАМІСІЯ РЭКАМЕНДУЕ ВЕДАЦЬ ДЗВЕ МОВЫ І ЗДАВАЦЬ ДВА ЭКЗАМЕНЫ

**У сувязі з тым, што майскі рэферэндум у Беларусі прыраўнаваў статус рускай мовы да статусу беларускай, Камісія Вярхоўнага Савета па адукацыі, культуры і захаванню гістарычнай спадчыны прыняла пастанову, у якой рэкамендуе міністэрствам і ведамствам Рэспублікі Беларусь ажыццявіць комплекс мерапрыемстваў, накіраваных на тое, каб супрацоўнікі дзяржаўных устаноў, арганізацый, прадпрыемстваў належным чынам валодалі і беларускай і рускай мовамі.**

Пры гэтым, на думку камісіі, трэба звярнуць першачарговую ўвагу на вывучэнне той мовы, якой яны не валодаюць або валодаюць у аб'ёме, недастатковым для выканання службовых абавязкаў.

Другой сваёй пастановай камісія рэкамендавала Міністэрству адукацыі і навукі Рэспублікі Беларусь увесці для абітурыентаў усіх вышэйшых і сярэдніх спецыяльных навучальных устаноў два абавязковыя экзамены: адзін — па беларускай, другі — па рускай мове.

**Белінфарм.**

## Шлях абаронцам бел-чырвона-белага сцяга на дах Маладзечанскага гарвыканкама адрэзаны... Аўтагенам

— "Народная газета"

Таямнічая гісторыя з бел-чырвона-белым сцягам у Маладзечанскім гарвыканкаме, пра якую ў нумары за 8 чэрвеня пісала наша газета, падышла, здаецца, да лагічнага канца.

Каб зламысьнікі зноў не залезлі на дах і не вывесілі над будынкам гарсавета трапіўшы ў няміласць сцяг, новы мэр горада Станіслаў Татарыновіч выклікаў электразваршчыкаў і загадаў ім адрэзаць аўтагенам жалезную лесвіцу.

І цяпер новы прэзідэнцкі сцяг, калі яго прыме парламент, давядзецца вешаць над будынкам гарвыканкама... верталётам. Але наўрад ці ўдасца маладзечанскаму начальству і гэта зрабіць — разам з лесвіцай спілаваны і жалезны штыр флагштока.

Не могуць толькі ніяк разабрацца з вядомым беларускім пісьменнікам і па сумяшчальніцтву вартаўніком гарвыканкама Міколам Капыловічам. Яго прымушаюць пісаць на імя мэра горада "тлумачалкі", што ён з'яўляецца бээнэфаўскім агентам, якога заслаў Пазьняк вывешваць ноччу над будынкам гарсавета сцягі.

Такім чынам, над будынкам Маладзечанскага гарвыканкама пакуль што няма ніякага сцяга. Безуладдзе?

**Яўген АСТРАЖАНСКІ.**

## Справа пра сьцяг мае працяг

**У Пракуратуру Рэспублікі паступіла чарговая заява ад жыхаркі Менска Тацьцяны Процькі, якая настойвае на ўзбуджэньні крымінальнай справы супраць прэзідэнцкага "завхоза" Івана Ціцянкова.**

Як ужо паведамлялася ў друку, пракуратура прыйшла да высновы, што ў работнікаў прэзідэнцкай адміністрацыі *"не было намеру зьневажаць дзяржаўны сьцяг, у сувязі з чым адсутнічае склад злачынства, прадугледжаны арт.186/2 КК РБ — зьнявага дзяржаўных сімвалаў".*

Нагадаем, што справа датычыць падзеяў, якія адбыліся 16 траўня на даху прэзідэнцкай рэзідэнцыі, дзе І.Ціцянкоў дэманстратыўна, перад тэлекамэрамі, ставіў свае аўтографы на палосах разарванага ўпоперак бел-чырвона-белага сьцяга. Расправа над дзяржаўным сімвалам адбылася ў той час, калі пра канчатковыя вынікі рэфэрэндуму яшчэ ня ведаў нават Цэнтрвыбаркам.

Тацьцяна Процька піша, што *"паказаная па двух каналах тэлевізіі замена дзяржаўнага сьцягу без дастатковай аргумэнтацыі перакваліфікаваная праваахоўнымі як утылізацыя зношанага палотнішча. І нават у гэтым выпадку ўстаноўлены шэраг парушэньняў службовых абавязкаў І.Ціцянковым (палажэньня аб утылізацыі, закона аб рэфэрэндуме). Аднак праігнараваны той факт, што гэтыя парушэньні выклікалі зьнявагу нацыянальнай годнасьці і гонару грамадзян Беларусі (арт.71 КК РБ). Акрамя таго, ня дадзена прававая ацэнка факту напісаньня І.Ціцянковым аўтографаў. Спроба праваахоўных аднесьці гэтыя дзеяньні да парушэньня палажэньня аб утылізацыі зьяўляецца неабгрунтаванай".*

*"Свабода"*

**Алесь ДАШЧЫНСКІ**

**На гэтым здымку, які зроблены з відэастужкі, зафіксаваны момант "утылізацыі" дзяржаўнага сьцягу.**



## Гандлююць сьцягамі

Як паведаміла газэта "Пагоня", на гарадзенскім базары даволі бойка ідзе гандаль бел-чырвона-белымі сьцягамі.

Гандляры маюць, відаць, неблагі прыбытак. Цана аднаго сьцягу дасягае 100 амэрыканскіх даляраў. Але нават нягледзячы на такі высокі кошт, тавар раскупляецца. Ці то гродзенцы вераць, што гэтыя сьцягі яшчэ вернуцца, ці то зьбіраюцца іх калекцыянаваць.

Уладз. Янін

## БЕЛАРУСКІ «ЗУБР» З АМЕРЫКАНСКІМ СЭРЦАМ

**У Мінску 26 чэрвеня Надзвычайны і Паўнамоцны Пасол ЗША ў Рэспубліцы Беларусь Кенэт Яловіц і міністр прамысловасці Беларусі Уладзімір Куранкоў падпісалі пагадненне аб тэхнічна-эканамічным абгрунтаванні сумеснага праекта па выпуску дызельных рухавікоў.**

З амерыканскага боку прадугледжваецца ўдзел у ім кампаній «Нэйвістар», «Дэтройт Дызл», «Лэм Тэкнікан». З беларускага — мінскіх маторнага і аўтамабільнага заводаў, іншых прадпрыемстваў.

Фінансаваць экспертызу праекта будуць Агенцтва ЗША па гандлі і развіццю, а таксама амерыканскія партнёры. Яны выдзеляць на гэтыя мэты 1647 тысяч долараў. Пасля абгрунтавання эканамічнай мэтазгоднасці праграмы плануецца ў самыя сціслыя тэрміны стварыць сумеснае прадпрыемства. Базавымі для яго стануць беларускія заводы і прадпрымальніцкія структуры. Новыя тэхналогію вытворчасці і абсталяванне пастаўяць амерыканцы. У выпадку поспеху праекта на сусветны рынак будуць пастаўляцца не толькі дызелі арыгінальнай канструкцыі магутнасцю ад 190 да 420 конскіх сіл, але і «начыненыя» імі беларускія «зубры» — «МАЗы» і «БелАЗы».

**Аляксандр ВАЛАВОЙ,**

# Цяпер Антончык "усыпаў" і сваім. Але БНФ уцалеў

**Віктар ХАРОШКА**

***Як вядома, нядаўна прайшло чарговае пасяджэнне IV з'езда Беларускага народнага фронту "Адраджэньне". Першачарговай задачай на ім была ідэя ўмацавання структуры арганізацыі шляхам пераўтварэння БНФ у партыю пірамідальнага тыпу з моцным кіруючым ядром, разгалінаванай сеткай рэгіянальных арганізацый, жорсткай унутранай дысцыплінай і больш строгай сістэмай прыёму новых членаў.***

*Народная газета*

Асаблівую пікантнасць з'езду надала тая акалічнасць, што члены арганізацыйнага камітэта, якія рыхтавалі свой форум, за месяц так і не прыйшлі да адзінай думкі. Некаторыя пытанні не абмяркоўваліся ў нізавых арганізацыях і адразу былі вынесены на з'езд.

А там, мяркуючы па звестках, разгарэўся амаль скандал, які ледзь не прывёў да расколу БНФ. Было пастаўлена пытанне аб раздзеле Фронту на партыю і грамадскі рух.

Што ж адбылося на з'ездзе на самай справе?

Мы папрасілі пракаменціраваць сітуацыю аднаго з намеснікаў старшыні БНФ Юрыя Хадыку. Вось што ён патлумачыў:

— Непарламенцкі, непалітычны характар насілі дыскусіі толькі пасля выступлення Сяргея Антончыка. Ён абвінаваціў кіраўніцтва Фронту ў шмат якіх "грахах". І перш за ўсё ў тым, што Фронт займаецца не рэальнай палітыкай, а праграмамі. Сказаць па праўдзе, дык у ягоных словах адлюстраваны некаторыя рысы работы нашай арганізацыі і ў першую чаргу — недастатковая палітычная гнуткасць. Названая акалічнасць і вызначыла эмацыянальны характар дыскусій.

**Астатнія выступленні былі даволі канструктыўнымі і скіроўваліся на абмеркаванне тактычных і арганізацыйных асаблівасцей дзейнасці БНФ. Бо, сапраўды, у нас ёсць залішняя цэнтралізацыя.**

**Хоць на з'ездзе і былі закрануты істотныя праблемы работы Фронту, але ход падзей не прывёў і не мог прывесці да яго расколу. Таму што Фронт грунтуецца і аб'ядноўваецца на нашай агульнай адданасці Бацькаўшчыне,** адраджэнню беларускай дзяржавы і культуры, на светапоглядным адзінстве.

У нас не было і не магло быць прычын для канфлікту. Чыесьці асабістыя амбіцыі ці крыўды пакуль што не перасягаюць крытычную мяжу. Такога роду выступленні, як выступленне Антончыка, у складаных абставінах натуральныя і будуць спрыяць удасканаленню палітычнай структуры Фронту і павышэнню яго іміджу ў вачах грамадства.

**— Тады чым абумоўлены той факт, што вы выставілі сваю кандыдатуру на пасаду старшыні БНФ?**

— Перш за ўсё тым, што мы не сумелі дасягнуць у межах аргкамітэта адзінства поглядаў. Гэта натуральнае памкненне для любой арганізацыі. І паколькі адзінства не было, то вынясенне названага пытання стала непазбежным. Мы не змаглі знайсці адзінства ў спакойнай рабоце, таму некаторыя аспекты процістаяння набылі форму барацьбы на выбарах. Я стаяў за больш інтэнсіўныя структурныя перамены. Але большасць з'езда падтрымала ўзважаную, паволную тактыку.

**Апошні з'езд паказаў, што мы заклалі нармальныя асновы канкурэнтнага змагання ў межах кіраўніцтва БНФ.**

**Дарэчы, апанентам Пазьняка, акрамя Хадыкі, быў яшчэ і член Фонду падтрымкі дэмакратычных рэформ імя Льва Сапегі В.Грыцук. За Пазьняка прагаласавалі 244 дэпутаты, абсалютная большасць, і ён застаўся на галоўнай пасадзе ў БНФ. Намеснікамі старшыні абраны Ю.Хадыка, Ю.Беленькі, Л.Баршчэўскі, С.Гусак і В.Вячорка.**

*У газетах*

# Ці застануцца ў гэтым свеце беларусы?

Як ніколі раней, бурліць наша грамадства. Яго пэўная частка сапраўды, здаецца, атрымала асалоду ад таго, як у час рэферэндуму беларусы ўласнымі рукамі паставілі крыж на асновах сваёй нацыянальнасці, самастойнасці Беларусі. На вуліцах і ў магазінах, нават у сем'ях успыхваюць дыскусіі. Зусім нядаўна я таксама быў удзельнікам такой баталіі, калі ехаў у электрычцы з Мінска да сябе на радзіму. Добра знаёмы, паважаемы мною чалавек звярнуўся да мяне з пытаннем аб мэтазгоднасці галасаваць за прапановы «усенародна» абранага Прэзідэнта. Высветлілася, што для майго суразмоўцы мова — з'ява другарадная, галоўнае — эканоміка, матэрыяльная забяспечанасць, якой спрыяць быццам бы будзе Расія. А вось бел-чырвона-белы сцяг, «Пагоня» — сімвалы здрадніцкія, фашысцкія, а пры савецкай уладзе, маўляў, было ўсім хараша. Я слухаў уважліва, цярпліва, без пярэчанняў. Але мяне ў тых выказваннях здзіўляла вельмі многае. А больш за ўсё тое, што мой знаёмы — беларус, што яго бацьку знішчылі як ворага савецкай улады і нацдэма, як прадстаўніка найбольш працавітай і ўдумлівай часткі беларускага сялянства. Міжволі падумалася: як такое магло здарыцца, што забыў чалавек трагедыю роду свайго. Мозг шукаў адказу. І тут успомнілася, што мой знаёмы уступіў у КПСС, удзельнічаў у вайне супраць фашызму, стаў афіцэрам, потым у савецкай іерархіі займаў сярэднія кіруючыя пасады, у час вучобы прайшоў курс хлуслівай гісторыі, не меў анііякага ўяўлення аб сапраўдным мінулым беларускага народа, яго сімвалах, аб лёсе яго мовы і яе ролі ў станаўленні нацыянальнага характару беларусаў. Таму дагматызм савецкага часу ўвайшоў у свядомасць майго спадарожніка ўжо на генным узроўні і не даваў яму магчымасці самастойна думаць і пранікацьу сутнасць сучасных, больш чым заблытаных грамадскіх працэсаў, да якіх як раз і прывяла савецкая ўлада шляхам знішчэння калі мільёна не проста прадстаўнікоў беларускага народа, а лепшай часткі беларускай нацыі, стварэння хваравіта залежнай эканомікі, у асноўным, — толькі для патрэб СССР, прыніжэння чалавечай асобы.

Вярнуўся ў Мінск. Адчуў адразу ж павелічэнне агрэсіўнасці інтэлектуальнага наступу адлаведнай, значнай часткі нашых грамадзян на беларускасць наогул. Заходжу, напрыклад, у прыёмную рэктара аднаго з інстытутаў. А там «і.о.» загадчыка адной з кафедраў зневажальна выказвае літаральна наступнае: «Как хорошо, что белорусский язык отменяется, отлетит сейчас всякая белорусская шелуха». Мне і раней прыходзілася чуць ад яе прыкладна такія брыдоты: «Пусть помолчат эти белорусы, мы приехали, их хоть чему-то научили». Аднак мне добра вядома, што ніхто гэтую даму сюды не запрашаў. Яна прыехала з бацькам, які быў прысланы для мацавання савецкай улады і працаваў міністрам ці намеснікам міністра. Быццам бы нельга было знайсці на гэтую пасаду карэннага жыхара. У гарадах Беларусі рускіх у сярэднім 20—25 працэнтаў. Значная іх частка была прыслана зноў жа для мацавання саветаў або ваеннай моцы СССР.

Не пазбеглі наступу на беларускасць і ўрачыстасці ў гонар 50-годдзя Перамогі. Тут беларускім духам зусім і не пахла. Наадварот, многае зводзілася да таго, каб мы адчувалі нават няёмкасць за любоў да сваёй роднай Беларусі. Бо ўсюды гучала адно — «великий советский народ». А між тым, калі б не было Беларусі, як буфера, то фашысцкія полчышчы яшчэ да 1-га кастрычніка 1941 года дакаціліся б да Урала. І перамога была б зусім іншай.

Я пішу ўсё гэта зусім не для таго, каб распаліць варожасць. Пішу таму, што наступ антыбеларускіх сіл, іх агрэсіўнасць павялічваюцца. Ціск на простага, даверлівага беларуса нарастае, каб ён не разабраўшыся выступіў супраць самога сябе.

Адзначу, што вынесеныя на рэферэндум пытанні патрабавалі не толькі ўзважанага падбору фармулёвак, але і дастатковага часу для разгляду ў самых процілеглых варыянтах сродкамі масавай інфармацыі, што так і не адбылося. Таму прэзідэнцкі рэферэндум, па сутнасці, толькі адцягнуў увагу народа ад самых неадкладных жыццёвых праблем і, як і варта было чакаць, прывёў да сур'ёзнага абвастрэння напружанасці ў грамадстве.

**Аляксей САЛАМОНАЎ,**
**доктар тэхнічных навук, прафесар.**
*(З газеты «Свабодныя прафсаюзы», № 23, 95 г.)*



"Свабода"

"Беларусы" пракладаюць шлях не з Варагаў у Грэкі, а з Эўропы ў Азію...

БЕЛАРУСЬ І СВЕТ

# БАРАЦЬБА Ў САН-ФРАНЦЫСКА ЗА ЎКЛЮЧЭННЕ БЕЛАРУСІ Ў САСТАЎ ЗАСНАВАЛЬНІКАЎ ААН

ЗВЯЗДА

**Канферэнцыя Аб'яднаных Нацый у Сан-Францыска была склікана па рашэнню Ялцінскай канферэнцыі з мэтай распрацоўкі і прыняцця Статута ствараемай Арганізацыі Аб'яднаных Нацый. Яна праходзіла з 25 красавіка па 26 чэрвеня 1945 г. і ў яе завяршальным этапе ўдзельнічалі 50 дзяржаў. Адным з сур'ёзных пытанняў, якое не ўдалося канчаткова вырашыць напярэдадні канферэнцыі, было пытанне аб ініцыятарах, дзяржавах — заснавальніцах новай міжнароднай арганізацыі. Яно тычылася і ўключэння дзвюх савецкіх саюзных рэспублік — Беларускай ССР і Украінскай ССР — у састаў першапачатковых членаў арганізацыі.**

26 красавіка 1945 года на прэс-канферэнцыі ў Сан-Францыска кіраўнік дэлегацыі СССР В. Молатаў выказаў надзею, што Украіна і Беларусь атрымаюць прадстаўніцтва на канферэнцыі Аб'яднаных Нацый. Адказваючы на пытанне карэспандэнта, чаму Савецкі Саюз патрабаваў трох месцаў у Асамблеі, а не 16, ён заўважыў: «Мы прасілі мінімуму». Падкрэсліўшы, што Украіна і Беларусь адыгралі важную ролю ў вайне і разгроме агульнага ворага, ён дабавіў: «Ніхто не можа адмаўляць, што яны заслужылі права голасу на канферэнцыі».

У той жа дзень на першым пасяджэнні кіраўнікоў дэлегацый (кіруючага камітэта) па прапанове Молатава ў парадак дня работы канферэнцыі быў аднадушна ўнесены пункт 9 «Запрашэнне Украінскай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі і Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі ўступіць у лік першапачатковых членаў міжнароднай арганізацыі».

У заяве ўрада БССР, падпісаным Старшынёй СНК БССР П. Панамарэнкам і наркомам па замежных справах БССР К. Кісялёвым, былі прыведзены наступныя падставы, якія давалі ўраду БССР права і дазвалялі яму лічыць сваім абавязкам удзельнічаць у міжнароднай арганізацыі і ў канферэнцыі ў Сан-Францыска. Гэтыя канстытуцыйныя прэрагатывы БССР у галіне міжнародных адносінаў; вялікі ўклад рэспублікі ў справу барацьбы Аб'яднаных Нацый супраць гітлераўскай Германіі і панесеныя ёю ў вайне з фашызмам вялікія ахвяры; імкненне БССР разам з іншымі свабодалюбівымі дзяржавамі садзейнічаць справе ўсталявання трывалага міру і забеспячэння бяспекі.

Відавочна, што правы і падставы, прыведзеныя ў заяве беларускага ўрада, былі хоць і дастаткова важкімі, але не з'яўляліся галоўнай прычынай допуску рэспублікі ў лік першапачатковых членаў ААН і на канферэнцыю ў Сан-Францыска. Галоўным было імкненне савецкага кіраўніцтва атрымаць дадатковыя галасы ў Генеральнай Асамблеі, аддаць належнае нацыянальным пачуццям беларусаў і украінцаў, зрабіць высакародным міжнародное аблічча і ўмацаваць пазіцыі таталітарнай сістэмы ў краіне, гатоўнасць урадаў Вялікабрытаніі (у большай меры) і ЗША (у меншай меры) пайсці насустрач патрабаванню СССР.

На пасяджэнні 27 красавіка савецкую прапанову падтрымалі ў сваіх кароткіх выступленнях кіраўнікі дэлегацый ЗША, Вялікабрытаніі, Кітая, Ірана, Францыі, Бразіліі, Чэхаславакіі і Аўстраліі. Пасяджэнне аднагалосна прыняло пастанову «падтрымаць прапанову Молатава ўключыць Украінскую і Беларускую Савецкія Сацыялістычныя Рэспублікі ў лік першапачатковых членаў Арганізацыі». Гэта рашэнне было аднагалосна пацверджана ў той жа дзень другім пленарным пасяджэннем канферэнцыі і сустрэта апладысментамі.

У сувязі з адкрыццём канферэнцыі амерыканская прэса звярнулася да тэмы аб дадатковых галасах СССР. У рэдакцыйным артыкуле «Нью-Йорк таймс» ад 27 красавіка пад назвай «Тры рускія галасы» ў цэлым выказваліся станоўчыя адносіны да ўключэння Беларусі і Украіны ў састаў міжнароднай арганізацыі і ўказвалася, што дэлегацыя ЗША павінна выканаць абавязацельства, узятае Рузвельтам у Крыме. Адзначалася, што тры «рускія» галасы будуць меншасцю сярод 46 галасоў у Асамблеі. Не ставячы пад сумненне большую міжнародную вагу СССР у параўнанні з Эфіопіяй, Ліберыяй і іншымі малымі дзяржавамі, газета пісала: але правільна таксама і тое, што ўсе іншыя вялікія дзяржавы маюць у Асамблеі толькі адзін голас. «Праблемы тут наогул не было б, калі б Беларусь і Украіна былі б усюды прызнаны як незалежныя дзяржавы з іх уласнымі пасольствамі за мяжой», — заключала «Нью-Йорк таймс».

Станоўчае вырашэнне пытання аб запрашэнні дзвюх савецкіх рэспублік краіны Лацінскай Амерыкі хацелі звязаць з адабрэннем СССР запрашэння Аргенціны на канферэнцыю. Па аргенцінскаму пытанню ўзнік канфлікт паміж СССР і ЗША. Справа ў тым, што ў Ялце Рузвельт абяцаў Сталіну не падтрымліваць допуск Аргенціны ў Аб'яднаныя Нацыі, бо ў гэтай краіне быў моцны фашысцкі рух. Толькі 27 сакавіка 1945 г. урад Аргенціны аб'явіў вайну Японіі і Германіі і далучыўся да рашэнняў міжамерыканскай канфедэрацыі ў Мехіка.

Па меры набліжэння канферэнцыі ў Сан-Францыска лацінаамерыканскія краіны ўзмацнялі націск на ЗША, настойваючы на ўключэнні Аргенціны ў першапачатковыя члены міжнароднай арганізацыі. Стэтыніус аказаўся ў цяжкім становішчы: з аднаго боку, ён памятаў словы Рузвельта ў Ялце аб Аргенціне, з другога — апасаўся, што краіны Лацінскай Амерыкі, якія мелі 19 галасоў, могуць прагаласаваць супраць Украіны і Беларусі. Гэту занепакоенасць Стэтыніус выказаў Молатаву напярэдадні канферэнцыі.

28 красавіка на сустрэчы прадстаўнікоў «вялікай чацвёркі» і трох краін Лацінскай Амерыкі — Калумбіі, Мексікі і Перу — апошнія заявілі аб тым, што краіны Лацінскай Амерыкі згодзяцца падтрымаць савецкія рэспублікі ў абмен на падтрымку Аргенціны. Вынікам гэтай сустрэчы было дасягненне ўзаемнай дагаворанасці: краіны Лацінскай Амерыкі падтрымаюць прапанову «вялікай чацвёркі» аб запрашэнні для ўдзелу ў канферэнцыі Беларусі і Украіны, а СССР у сваю чаргу не будзе пярэчыць супраць запрашэння Аргенціны.

Як адзначалі потым амерыканскія і англійскія гісторыкі ААН, рашэнні па дзвюх савецкіх рэспубліках былі прыняты аднагалосна, «хоць і без энтузіязму». Лацінаамерыканскія дзяржавы дружна галасавалі за запрашэнне Украіны і Беларусі на канферэнцыю ў абмен на дадзенае СССР абавязацельства падтрымаць Аргенціну.

Але калі разглядалася пытанне аб прадстаўніцтве Аргенціны, Молатаў прапанаваў адкласці яго на некалькі дзён для вывучэння. Аднак гэта прапанова не атрымала падтрымкі, і значнай большасцю галасоў аргенцінская дэлегацыя таксама была запрошана для ўдзелу ў рабоце канферэнцыі.

Вынікам дыпламатычных манеўраў СССР стаў кампраміс па пытанню аб Аргенціне.

Прэзідыум Вярхоўнага Савета БССР па ўзгадненню з бюро ЦК КП(б) Беларусі 30 красавіка 1945 г. назначыў дэлегацыю БССР на канферэнцыю ў саставе К. Кісялёва (кіраўнік дэлегацыі), А. Жэбрака, У. Перцава, Г. Байдукова і Ф. Шмыгава. У састаў тэхнічнага персаналу дэлегацыі ўвайшлі: В. Фармашоў (консультант), М. Лынькоў (карэспандэнт), М. Пятрова (перакладчыца), Несцерава (перакладчыца-стэнаграфістка).

Трэба адзначыць, што і пасля таго, як БССР і УССР сталі членамі ААН, у ЗША заставаліся ўплывовыя палітыкі, якія шкадавалі аб тым, што адбылося. Найбольш прыкметным з іх быў Д. Бірнс, які змяніў Э. Стэтыніуса на пасадзе дзяржаўнага сакратара ў ліпені 1945 г. Ён быў цвёрдым і паслядоўным праціўнікам допушчэння гэтых дзвюх, як і іншых савецкіх рэспублік, у рады ААН. Бірнс лічыў, што дэлегацыя ЗША ў Сан-Францыска павінна была патрабаваць згодна з ялцінскай дагаворанасцю тры галасы і для сябе. У сваіх успамінах ён пісаў, што «часта шкадаваў» накont адмовы Рузвельта ад трох месцаў для ЗША ў ААН, якімі можна было б скарыстацца ў інтарэсах ЗША.

Беларусь і Украіна, як і ўсе іншыя саюзныя рэспублікі, не былі ініцыятарамі пастаноўкі пытання аб сваім асобным членстве ў міжнароднай арганізацыі бяспекі, як і ў цэлым прадастаўлення сабе знешнепалітычных паўнамоцтваў. Як адзначалася, за патрабаваннямі допуску рэспублік у новую міжнародную арганізацыю таіліся перш за ўсё інтарэсы сталінскага кіраўніцтва.

Галоўнымі дзеючымі асобамі гэтай вялікай, цікавай і драматычнай дыпламатычнай гульні з савецкага боку былі Сталін, Молатаў і Грамыка. Допуск Беларусі і Украіны ў ААН быў бы немагчымым без падтрымкі кіраўнікоў ЗША (Рузвельта і Трумэна) і Вялікабрытаніі (Чэрчыля) і іх урадаў, якія змаглі арганізаваць падтрымку савецкай прапановы сярод сваіх шматлікіх саюзнікаў — брытанскіх дамініёнаў, лацінаамерыканскіх краін, дзяржаў Еўропы і Азіі.

**Уладзімір СНАПКОЎСКІ,**
**доктар гістарычных навук, прафесар кафедры міжнародных адносінаў Белдзяржуніверсітэта.**

## Зацверджана эмблема святкавання 50-годдзя заснавання ААН




Як паведамілі ў міністэрстве замежных спраў Рэспублікі Беларусь, з нагоды святкавання сёлета паўвекавога юбілею Арганізацыі Аб'яднаных Нацый у Рэспубліцы Беларусь, распрацавана эмблема. Яна будзе выкарыстоўвацца пры правядзенні адпаведных святочных мерапрыемстваў.

Беларуская акадэмія мастацтваў правяла конкурс на лепшую эмблему, у якім удзельнічалі выкладчыкі акадэміі і прадстаўнікі Саюза мастакоў Беларусі. Лепшым быў прызнаны варыянт эмблемы, які выканаў мастак акадэміі В. Каламеец.

Эмблема ўяўляе сабой спалучэнне сімволікі святкавання 50-годдзя ААН і выявы белага бусла з распасцёртымі крыламі.

Падрыхтоўчы камітэт ААН па правядзенню 50-й гадавіны Арганізацыі Аб'яднаных Нацый высока ацаніў дзейнасць Нацыянальнага камітэта Беларусі па садзейнічанню рэалізацыі метадаў ААН на працягу гэтага юбілейнага года і адобрыў эмблему святкавання 50-годдзя ААН у Беларусі.

Ёе чытачы могуць убачыць у сённяшнім нумары «Звязды» побач з артыкулам прафесара Уладзіміра Снапкоўскага, прысвечанага ААНаўскай тэматыцы.

# ШЛЯХ ДА СВЯТЫНІ

2 ліпеня ў будслаўскай Базіліцы Мінорыс адбыўся вялікі каталіцкі фэст. Як вядома, у гэтым касцёле знаходзіцца найбольш шанаваны на Беларусі абраз Маці Божай, вядомы яшчэ з глыбокай старажытнасці, таму будслаўскі фэст з'яўляецца найбуйнейшым у нашай краіне.

Будслаў — невялікае мястэчка на Мядзельшчыне з некалькімі сотнямі хат і звыклым наборам культурных і сацыяльных устаноў — клуб, дзе па выхадных надараюцца танцы і бойкі, некалькі крам... У звыклы дзень тут пануе ўсеахопная цішыня і спакой. Але раз на год цёплым ліпеньскім днём мястэчковыя вулачкі запаўняюцца натоўпамі людзей, што з'язджаюцца сюды з усіх куткоў Беларусі, дый і не толькі яе; паўсюль чуваць узнёслыя каталіцкія спевы і малітвы. Гэта значыць — прыйшло Свята.

Будслаўскі фэст — ці не адзінае, што засталося нам ад той, даўняй Беларусі, якой цяпер нам так не стае. Нацыянальная традыцыя, народны дух выяўляецца тут не толькі ўласна ў прадмеце веры і сродках, дарэчы, досыць своеасаблівых, якімі людзі ўзносяць яму пашану, а нават знешне. Так, калісь касцёл быў цэнтрам не толькі рэлігійнага, але і грамадска-палітычнага і эканамічнага жыцця ў каталіцкім рэгіёне — ён звычайна месціўся на цэнтральным пляцы мястэчка, дзе збіраліся людзі, праходзілі кірмашы і наогул амаль увесь гандаль. І я быў вельмі здзіўлены, калі на рэлігійнае свята апроч вернікаў з'ехаліся і гандляры адкуль толькі магчыма і ўчынілі на ўзбочыне прыкасцельнага тракта дастаткова вялікі кірмаш, а тамтэйшая міліцыя дзейнічала ўзгоднена з пробашчам касцёла. Гэта сведчыць пра аўтарытэт Касцёла на Будслаўшчыне, з якім мусяць пагаджацца нават тамтэйшыя ўлады.

Здзівіла мяне таксама і колькасць моладзі, што прысутнічала на фэсце. Мы прызвычаіліся думаць, што рэлігія — справа старых, тое, што паступова адмірае само сабой, як сцвярджалі калісь нашы правадыры. Але Каталіцкі Касцёл, які мае тысячагадовую гісторыю, значна больш трывалы не толькі за камуністычную ідэю, і час штораз гэта падкрэслівае. Моладзь зноў і зноў цягнецца да Бога, прыходзіць у храм. Сёлета шмат з якіх гарадоў і мястэчак былі арганізаваныя пешыя пілігрымкі, і колькасць іх удзельнікаў уражвае. Так, толькі з менскай парафіі св. Тройцы да Будслава рушыла каля 50 чалавек. Моладзь не толькі больш імпэтная за старых, але і больш адукаваная і разняволеная. Наўрад ці, я думаю, хто са старых нават у гады сваёй маладосці мог наважыцца ўчыніць каля касцёла танцы. Танцы, праўда, былі хрысціянскія, але гэта не рабіла іх менш вясёлымі за лявоніху ці той жа рэп.

Але, натуральна, такія "мадэрновыя" забавы не пераважалі ў праграме фэсту. Найважнейшым мерапрыемствам з'яўлялася, безумоўна, Святая імша, адпраўленая ўночы Апостальскім нунцыем для каталіцкі-беларусаў кардыналам Аўгустынам Маркета, якой папярэднічаў крыжовы ход са свечкамі і песнямі вакол касцёла. У традыцыі свята ўвайшло адпраўляць гэтую імшу па-беларуску, але паколькі Яго Эксцэленцыя па нацыянальнасці італьянец, то на гэты раз яна была адпраўленая на лаціне, з беларускімі ўстаўкамі і спевамі. Увогуле, знаходзячыся на гэтым свяце, можна было знайсці шмат падстаў, каб запярэчыць амаль агульнапрынятаму сцверджанню, што касцёл змагаецца з беларускай мовай і пашырае пальшчызну. Нягледзячы на тое, што большасць ксяндзоў на нашых землях па нацыянальнасці палякі, яны стаўяцца да беларускай мовы значна лепш, ва ўсялякім выпадку, за "беларускія" ўлады шмат якіх міністэрстваў і нават часам змагаюцца з тым, што па традыцыі большасць вернікаў успрымае набажэнства выключна па-польску.

Спевы і малітвы працягваліся ў касцёле ўсю ноч. На наступны дзень фэст быў скончаны сустрэчай з працэсіяй нунцыя і ўрачыстай імшой. З пэўнай доляй шкадавання вернікі раз'язджаліся па сваіх мястэчках, несучы ў сэрцах нязгасны Божы агонь. Да сустрэчы налета.

"КУЛЬТУРА" **Г.С.**

## Васіль БЫКАЎ на "Кірхэнтаг"

**Па запрашэнню ўплывовых арганізацыяў Нямеччыны народны пісьменьнік Беларусі Васіль Быкаў прыняў удзел у буйнейшым эўрапейскім форуме "Кірхэнтаг", які нядаўна завяршыўся ў Гамбургу.**

На яго прыехала каля 200 тысяч удзельнікаў з усёй Нямеччыны і 60 краін сьвету. З галоўнай дыскусыйнай трыбуны выступілі былы прэзыдэнт Нямеччыны Рыхард фон Вайцзэкер, былы прэм'ер-міністр Польшчы Ганна Сухоцка, прэзыдэнт Эўрапарляманту Клаўс Гэнш, дзесяткі ўплывовых дзеячаў і навукоўцаў. З яркім словам перад тысячнай аўдыторыяй выступіў Васіль БЫКАЎ. Ён заклікаў сілы дабра аб'ядноўвацца, каб супрацьстаяць злу, якое апошнім часам зноў пайшло ў наступ. Наш знакаміты пісьменьнік прыняў удзел у чарнобыльскім маршы, які праходзіў па павільёнах форуму і завяршыўся на галоўнай дыскусыйнай трыбуне.

Ян Сяргееў
(Паводле "Народнае волі")

# НАСТАЛЬГІЯ ПА...БУДУЧЫНІ

У канцы 80-х Капыльшчына раскрывала перада мной таямніцы мінулага.

Спачатку, праўда, таямніц не было. Мінулае здавалася вывучаным па падручніках гісторыі. Але свет перавярнуўся. З'явіліся жахлівыя «белыя плямы гісторыі» на старонках газет і часопісаў. Прывід мінулага стаў блукаць па краіне. Выкладчыкі гісторыі разгубіліся, не ведаючы, што казаць студэнтам і школьнікам, чаго патрабаваць на экзаменах. Гісторыя збілася з вывернага шляху і пачала перапісвацца па-іншаму...

Афіцыйная гісторыя. Агульная гісторыя. Гісторыя для ўсіх.

У гэты час старыя жыхары капыльскіх вёсак, амаль равеснікі стагоддзя, распавядалі мне гісторыю іншую. Прыватную. Мясцовую. Сваю. Няхай суб'ектыўную, але — шчырую, людзьмі гэтымі ў свой час перажытую.

Вочы то свяціліся, то напаўняліся слязамі. Старыя ўспаміналі аб царскіх парадках, аб граніцы з Польшчай, аб камсамольскіх актывістах, аб раскулачаных, памёршых недзе ў Сібіры... Часам якая-небудзь старая бабулька раптам замаўкала на паўслове. «Не трэба, дачушка: што было, тое ўжо далёка! Што на мінулае наракаць? Я памру, а вам тут жыць усім разам».

Хто каго расстраляў, саслаў, раскулачыў, абрабаваў, хто каму здрадзіў у імя ідэі — аб гэтым старыя гаварыць не хацелі: «Вам трэба жыць усім разам».

О, святая мудрасць старых!

«Лепш вось што паслухай...» Я слухала. Ці то смешную гісторыю пра «самагонны завод» у суседнім пасёлку, калі два яго гаспадары, пасварыўшыся з-за прадукцыі, прынялі яе, пабраталіся, а астатняе з песнямі вылілі ў рэчку — на радасць мясцовым мужыкам, якія паспелі схапіць у рукі вёдры... Ці то проста песні — дзіўныя, незнаёмыя, «ненашыя» беларускія песні, што ніколі не гучалі па радыё, што я не чула раней і, напэўна, ужо не пачую ніколі.

Бабулі і дзядулі, шмат каго з якіх на гэтым свеце ўжо няма, не ведалі і ніколі не даведаюцца аб сваёй гістарычнай місіі — захаванні беларускай душы.

О, гэта святая недасведчанасць!..

***

І вось — лета 95-га. За шэсць гадоў вёска пастарэла. Школьнікі ды хлопцы-трактарысты — уся вясковая моладзь. Як пяць і дзесяць гадоў таму, народ штурмуе прыгарадныя аўтобусы і пільнуе машыну з хлебам ля вясковай крамы. Каб усім хапіла месцаў. Каб не разабралі хлеб. Вёска жыве бедна, затое больш радуецца крамам. «Чулі? Масла ў пасёлку стала таннейшае!»

Вёска верыць у лепшыя часы: «Гэта ўжо, мабыць, хутка. Улада змянілася». Дзякуй уладзе! Дзякуй мясцоваму «вертыкальшчыку»: дапамог у гэтым годзе атрымаць «нормы» калгасных буракоў для апрацоўкі. Вёска высыпае на палі разам з гарадскімі нашчадкамі. Апошнія — атрымаюць кармавыя для жывёлы, змогуць купіць у калгасе таннейшы цукар. Усё лягчэй! Вёска ўздыхае з палёгкай. У вёскі цяпер ёсць «свой» прэзідэнт, які «не пакіне»...

— Мы ж законаў не парушаем, мы іх выконваем. Выбары? Рэферэндум? А як жа — былі. Прагаласавалі. Як усе! І за інтэграцыю і за паўнамоцтвы...

Старая вёска верыць у будучыню — новую будучыню для сваіх дзяцей. Гасцінным жэстам (гасцінна махнуўшы на ўсё рукой?) выказваецца «ў абарону» рускай мовы. Яна не здагадваецца, што, нягледзячы на занесеную цывілізацыяй «трасянку» (анекдатычны ўзор: «Будзем разгаварваць на нашам языцэ»), гаворыць амаль моваі беларускіх кніжак. Дзе там! Не да кніжак. Не да душы. Было б што паесці, у што апранугца, чым дапамагчы гарадскім дзецям, малым унукам!

— Хай кожны гаворыць, як ён хоча! Калі чалавек нарадзіўся не ў нас — адкуль яму ведаць па-нашаму?

— А калі прыедзе адукаваны чалавек — з раёна ці яшчэ адкуль? — разважаюць пажылыя жанчыны. — Хіба ён будзе па-нашаму гаварыць?! Ён жа — аду-ка-ва-ны!..

Прапаную без усякай «лірыкі» проста супаставіць некаторыя лічбы:

У 1989-м годзе пры перапісе насельніцтва 80,2 працэнта беларусаў (па нацыянальнасці) прызналі беларускую мову роднай.

У 1995-м за дзяржаўнасць дзвюх моў выказаліся 83 працэнты галасаваўшага насельніцтва. Перапісвалі ўсіх. Галасавалі, як вядома, не ўсе і не толькі беларусы.

Хай будзе добра кожнаму, хто жыве на беларускай зямлі! Але калі мы, нарэшце, перастанем губляць уласную душу і прыніжаць уласную годнасць?

***

Не гадамі — вякамі ўбівалася ў беларускую душу згодніцкая псіхалогія, жабрацкая самасвядомасць. І знікне, магчыма, праз стагоддзі. Ці знікне?

Але пры чым тут душа?

Пры тым, што народ яшчэ не развучыўся верыць, чакаць, жартаваць і нават складаць анекдоты.

Кажуць, што калі беларуская мова дажыве адведзены ёй Богам тэрмін — не страшна: палова свету (адукаванага свету!) гаворыць ужо па-англійску. Вунь колькі слоў замежных і не вельмі зразумелых старым: «дылер», «спікер», «спонсар», «бізнес», «сертыфікат»... «прэзідэнт», у рэшце рэшт, — але гэта зразумела!

Не дайшоў пакуль у вёску апошні «гарадскі» анекдот... Ой, як не люблю я гэтую «паўночную» тэматыку! Але — крыху адрэдагую народную творчасць: «Памірае стары чукча — паважаны старажыл і старэйшына роду. Кліча родных і суседзяў да сябе ў чум і слабым голасам наказвае:

— Браты мае! Дзеці мае! Беражыце... беларусаў — ёсць на захадзе такі народ... Усе ўражаныя. Стары чукча прадаўжае:

— Пакуль яны існуюць — мы, чукчы, яшчэ не самыя цёмныя».

Смешна? Крыўдна?

Прабачце: не хацела...

**Таццяна СІНІТКО.**

ЗВЯЗДА

## ПАДЗЯКА

Як старшыня пабудовы Беларускага Музэя ў Гайнаўцы, Беласточчына, гэтым выказваю шчырую падзяку ўсім тым, хто праз газэту "Беларускі Дайджэст" зложыў ахвяру на пабудову беларускага музэю.

Вялікае Ўсім дзякуй! —

але не забывайце і надалей дапамагаць нашай агульнай справе.

Таксама запрашаем Усіх адведаць наш музэй, бо гэта, на мой погляд, другі дом кожнага беларуса, дзе-б ён ні жыў.

Гайнаўка, дня 6. 07. 1995 г.

SPOŁECZNY KOMITET BUDOWY MUZEUM i OŚRODKA KULTURY BIAŁORUSKIEJ
17-200 Hajnówka
ul. 3 Maja 42, tel. 30-16

PREZES
(—) K. Mełsienia

## Новая сімволіка Узброеных Сіл

**У сувязі са змяненнем у выніку рэферэндуму герба і сцяга Рэспублікі Беларусь у Міністэрстве абароны распрацаваны эскізы новай сімволікі Узброеных Сіл.**

Яе распрацоўшчыкі прапануюць беларускім ваенным нарукаўныя знакі з выявай новага беларускага сцяга, а таксама кукарды на форменных галаўных уборах з пяцікантовай зоркай у абрамленні лісцяў. Ад выкарыстання на кукардах адлюстравання нацыянальнага герба вырашана адмовіцца. На падобны крок спецыялістаў па распрацоўцы новай сімволікі, відаць, падштурхнула жаданне зменшыць будучыя выдаткі.

Эскізы новай сімволікі Беларускіх Узброеных Сіл ужо разгледжаны на пасяджэнні калегіі Міністэрства абароны і ў бліжэйшы час будуць перададзены на зацвярджэнне ў Кабінет міністраў рэспублікі.

"Рэспубліка" **Вячаслаў БУДКЕВІЧ**




# І стала бліжэй Амерыка

"Раніца"

**ПАСЁЛАК Лясны знаходзіцца недалёка ад Мінска, але лічыцца ўсё ж пасёлкам вясковага тыпу. І назву сваю Лясны атрымаў, здаецца, невыпадкова — да лесу і сапраўды рукой падаць.**

**Але гаворка пойдзе не пра Лясны, а пра яго жыхароў. Дакладней, семярых вучняў мясцовай бараўлянскай гімназіі, для якіх мінулы навучальны год адзначаны паездкай у ЗША. Прычым ездзілі бараўлянскія школьнікі не толькі, каб паглядзець і падзівіцца на іншую краіну, але і дзеля навукі. На працягу месяца знаходжання ў Амерыцы хлопчыкі і дзяўчынкі праслухалі паскораны курс лекцый па англійскай мове. Канечне, англійскую яны і дагэтуль ведалі няблага, таму і былі выбраны ў гэтую паездку. Але ж гутарковая англійская мова крыху іншая за тую, што выкладаюць у нашых школах. Падобна, такія адукацыйна-экскурсійныя паездкі становяцца для бараўлянскіх хлопчыкаў і дзяўчынак традыцыйнымі.**

**Гэта ўжо другая група беларускіх школьнікаў, якая пабывала ў ЗША дзякуючы намаганням і фінансавай падтрымцы міжнароднай арганізацыі СНІ і беларускіх Фонду міру і Камітэта абароны міру.**

**Уражанняў ад паездкі засталося, канечне, шмат. Імі і падзяліліся са мной адзінаццацікласнікі Злата ЛАБАНАВА, Кірыл РУДЫ і Алёша ШЧЭРБА.**

**Яны жылі ў штаце Каліфорнія, у невялікіх гарадках Ньюберы-Парк і Саўзэнд Оакс, што недалёка ад Лос-Анджэлеса, у сем'ях так званых "сярэдніх" амерыканцаў. Апроч штодзённых заняткаў англійскай мовай з тамтэйшым выкладчыкам, наведвалі звычайныя амерыканскія школы, знаёміліся з равеснікамі, з іх школьным жыццём і заняткамі ў вольны час, выязджалі на экскурсіі.**



## Школа

— Большасць старшакласнікаў прыязджаюць да яе на ўласных матацыклах і аўтамабілях, — расказвае Алёша.

Для нас гэта, можа, і дзіўна, а там — звычайная справа. Правы на кіраванне аўтамабілем можна атрымаць з 16-ці гадоў, а ў школе вучацца да 18-ці. Адносіны між настаўнікамі і вучнямі даволі спакойныя, а часам і абыякавыя. Вучыцца ніхто нікога не прымушае, адзнакі не выстаўляюцца. Галоўнае — у канцы вызначанага тэрміну прайсці ацэначныя тэсты па кожнаму з прадметаў.

Задачы і прыклады ў сярэдніх класах даволі простыя. З такімі, здаецца, лёгка справіўся б любы наш чацвёртакласнік. Вучэбны школьны тыдзень — пяцідзённы. Урокі заканчваюцца звычайна ў 13.00, але, як і ў іншых школах, ёсць аматары збегчы раней.

Многія старшакласнікі падзарабляюць у вольны час. Яго ў іх, здаецца, дастаткова, бо ўрокаў на дом задаюць даволі мала.

Па шчырых прызнаннях саміх амерыканцаў, на падрыхтоўку дамашніх заданняў большасць з іх затрачвае мінут 30—40. Цяжка сказаць, ці гэта з-за малой нагрузкі, ці з-за нежадання занадта напружвацца. А прадметы ёсць зусім невядомыя нам — напрыклад, права або акіянаграфія.

Звычайная справа — дзяжурны паліцмен ля ўваходу ў школу. Яго задача — не дапусціць пранесці зброю і наркотыкі. Але смельчакі ўсё роўна знаходзяцца. Па словах Кірыла і Алёшы, яны мелі магчымасць пераканацца ў тым на ўласныя вочы.

У адрозненне ад нашых, працягласць урокаў у амерыканскай школе 90 мінут, але ж і перапынкі большыя. Падчас самага вялікага — для лэнчу, можна і перакусіць, і пагуляць у мяч, і паслухаць выступленне школьнага рок-гурта, які паспявае за перапынак наладзіць свой міні-канцэрт.

## Сям'я

— У сям'і маіх амерыканскіх бацькоў, — кажа Кірыл, — двое дзяцей: дванаццацігадовы Уільямс і дзесяцігадовая Ілія.

Аднойчы заўважыў, што бацька нешта напаўголасу, амаль шэптам тлумачыць сыну. Калі пацікавіўся ў Іліі, што б гэта значыла, пачуў у адказ: тата "выхоўвае" Уільямса.

Аказваецца, мінулым вечарам сын позна вярнуўся ад сябра з дня нараджэння, і цяпер бацька на яго "сварыцца".

Наогул, па словах Кірыла, за ўвесь час, што ён жыў у сям'і, не чуў, каб гучна высвятлялі адносіны або сварыліся. Усе стараюцца ставіцца адно да аднаго з павагай, стараюцца зрабіць нешта прыемнае.

Кірылу пашчасціла адчуць такія ж адносіны і да сябе. Напрыклад, калі зусім нечакана атрымаў віншаванне з днём нараджэння.

Наогул, па календары, святкаваць яго Кірылу прыпадала ўжо дома. Але яго амерыканская сям'я вырашыла перанесці гэтае свята крыху наперад, прытым імянінніка ў свае планы не пасвячалі. Уявіце здзіўленне хлопца, калі нечакана з'явіліся і падарункі, і торт са свечкамі, і відэакамера, якая дакладна фіксавала ўсе прыемныя моманты той урачыстай падзеі.

— Цікавыя падаліся мне адносіны ў гэтай сям'і да праблемы "дзеці і грошы", — кажа далей Кірыл. — За кожную вымытую талерку Уільямс і Ілія атрымлівалі ад бацькі па 5 цэнтаў і вельмі стараліся зарабіць як мага больш.

Калі я спытаў, ці не баіцца бацька, што дзеці могуць неразумна выкарыстаць даволі вялікую суму грошай, ён адказаў так: чым больш яны зарабляць, тым больш задумаюцца, як патраціць... Напэўна, ёсць у гэтым рацыя.

## Вольны час

— На дыскатэках у школе, — расказвае Злата, — дарослыя звычайна не прысутнічаюць. Перад уваходам абавязкова правяраюць пропуск, які дае табе права прайсці. Атрымліваецца, што выпадковых людзей там не бывае — толькі свае і запрошаныя.

Прыходзяць жа на дыскатэку амаль у тым жа, што і ў школу, — джынсы ці шорты, майка, красоўкі.

Дзяўчынкі касметыкай не злоўжываюць, хаця і ў школу на заняткі некаторыя прыходзяць з крыху падфарбаванымі вуснамі і вачыма. Як і на нашых дыскатэках, танцуюць і хуткія танцы, і павольныя, іграе гучная музыка, бывае вельмі шумна.

Хлопчыкам і дзяўчынкам з Беларусі давялося пабываць у знакамітым Дысней-Лэндзе. Дарэчы, ён не падаўся ім такім казачным і захапляючым, як пра тое прынята расказваць. Куды больш уразілі так званыя "амерыканскія горкі".

У Галівудзе яны прыкладвалі свае рукі да адбіткаў рук розных кіназнакамітасцей на спецыяльнай сцяне, гулялі па алеі "зорак".

— Амерыканцы лічаць Галівуд не толькі горадам "зорак", але і горадам усемагчымых бадзяг і махляроў, — усміхаецца Злата. — Нас адразу папярэдзілі, каб "не лавілі варон".

А яшчэ яны ўсё ж такі акунуліся ў воды Ціхага акіяна. Чым, між іншым, выклікалі здзіўленне ў мясцовых жыхароў, бо вада на той час была яшчэ даволі "халодная" — дваццаць градусаў. Але ж хіба можна было не выкарыстаць такую магчымасць?

**І. СВІРКО.**

Мінскі раён.

## «НАРОДНАЯ ВОЛЯ» ЮСІФА СЯРЭДЗІЧА

**Убачыў свет першы нумар штотыднёвай рэспубліканскай недзяржаўнай газеты «Народная воля».**

Яе заснавальнік і галоўны рэдактар — вядомы журналіст, былы рэдактар «Народнай газеты» Іосіф Сярэдзіч. Газета выдаецца на беларускай і рускай мовах. Характэрна, што тыраж першага нумара новага выдання склаў ні многа, ні мала — 101.000 экземпляраў. Як заявіў са старонак свайго дзецішча І. Сярэдзіч, галоўныя крытэрыі работы калектыву рэдакцыі — аб'ектыўная інфармацыя, свабодны абмен думкамі, разнастайнасць поглядаў. Як падкрэслівае далей галоўны рэдактар газеты, да заснавання і выдання «Народнай волі» не маюць адносінаў ніякія палітычныя групоўкі. У перспектыўных планах заснавальніка — выпуск са жніўня выдання як штодзённай газеты.

"Звязда" **Сяргей РАСОЛЬКА, РІЦ.**

## Палёт у XXI стагоддзе

## На паветраныя лініі ЗША выходзіць новы "Боінг-777"

На міжнародныя і мясцовыя паветраныя лініі ЗША выходзіць пасажырскі самалёт новага пакалення — "Боінг-777". Ён ужо прайшоў сертыфікацыю Упраўлення сумесных авіяцыйных служб, агенцтва, якое прадстаўляе 18 еўрапейскіх краін, і ў чэрвені прыме першых пасажыраў на лініі Вашынгтон—Лондан авіякампаніі "Юнайтэд эйрлайнз".

Новая машына аснашчана поўнасцю аўтаматызаваным электронным кіраваннем, аднак не гэта складае прадмет гонару стваральнікаў самалёта. "Упершыню ў практыцы кампаніі ўсе вузлы, дэталі і корпус "Боінга" былі поўнасцю разлічаны на камп'ютэры, — гаворыць дырэктар Федэральнага ўпраўлення авіяцыйных служб Дэвід Хінсан. — Гэту работу інжынераў і рабочых кампаніі можна назваць пачаткам авіяцыі будучага стагоддзя".

"Боінг-777" будзе выпускацца ў двух варыянтах. Першы, разлічаны на 375 пасажыраў, прызначаны для палётаў на адлегласць да 7500 кіламетраў, а другі, на борце якога змогуць размясціцца 305 чалавек, зможа без пасадкі пераадольваць 14 тысяч кіламетраў.

**З Нью-Йорка — Сяргей БАЙБАКОЎ.**

## ЛЮБОЎ ДА АЙЧЫНЫ ПАВІННА ЎВАСАБЛЯЦЦА Ў КАНКРЭТНАЙ СПРАВЕ

"Звязда"

***Цяжкі і пакутны лёс раскідаў многіх нашых землякоў па розных краінах і кантынентах. Але яны не забываліся на сваю далёкую Бацькаўшчыну. Удалечыні ад Беларусі яны шанавалі родную мову, годна рэпрэзентавалі Беларусь за мяжою.***

Сярод шчырых руплііўцаў беларускае дыяспары асаблівае месца належыць Міколу Прускаму, які шмат гадоў плённа працуе на беларускай ніве, з'яўляючыся актыўным дзеячам беларускай грамады ў ЗША. Ягонаю галоўнаю турботаю з'яўляецца дапамога роднай Беларусі, дабрабыт якой — агульны клопат усіх сумленных беларусаў, дзе б яны ні жылі. Таму ён ужо шматкроць дасылаў каштоўную гуманітарную дапамогу ў нашую краіну.

Вось і цяпер ён даслаў Згуртаванню беларусаў свету «Бацькаўшчына» для раздачы дабрачынны груз агульным коштам на 280 тысячаў доляраў ЗША.

У асноўным гэта лекі, медыцынская літаратура і абсталяванне. Гэта вызначыла і асноўных адрасатаў — Брэсцкая абласная бальніца, Стаўбцоўскае раённае медыцынскае аб'яднанне, 4-я клінічная бальніца г. Мінска, Мінскі медыцынскі інстытут і інш. Не абыдзены ўвагаю і дабрачынныя фонды — частку грузу атрымалі Беларуская дабрачынная асацыяцыя «Прамень надзеі», фонд «Сакавік» і інш.

**Андрэй ГЛІННІК.**

## ПАДАРУНАК КОШТАМ У 280 ТЫСЯЧ ДОЛАРАЎ

Мікола Пруські, актыўны дзеяч беларускай дыяспары ў ЗША, даслаў Згуртаваньню беларусаў сьвету "Бацькаўшчына" дабрачынны груз агульным коштам на 280 тысяч долараў ЗША.

У аснаўным гэта — лекі, мэдыцынская літаратура і абсталяваньне. Гэтыя неабходныя падарункі перададзены Брэсцкай абласной бальніцы, Стаўпцоўскаму раённаму мэдычнаму аб"яднаньню, 4-й клінічнай бальніцы Менска, Менскаму мэдыцынскаму інстытуту і іншым адрасатам. Частку грузу атрымалі беларуская дабрачынная асацыяцыя "Прамень надзеі" і фонд "Сакавік".

БелаПАН.

(Паводле газэты "Народная воля"

**Выясьненьне ад Рэд. "Беларускі Дайджэст":**

Галоўным спонсарам гэтага вялікага грузу зьяўляецца выдатная сям'я Наталлі і Анатоля Лук'янчукоў з Огайо. Сям'я Веры і Міколы Пруських зьяўляецца другарадным спонсарам гэтага грузу. Беларуская мас-медыя гэтага недагледзела.

## ЭКСТРАННАЯ НАРАДА З ПРЫЧЫНЫ ЧЭРГАЎ

**У Брэсце адбылася сумесная нарада прадстаўнікоў пагранічных і мытных службаў Рэспублікі Беларусь і Рэспублікі Польшча.**

Аб гэтым Белінфарму паведамілі ў аддзеле друку і інфармацыі МЗС рэспублікі. Прычына для яго правядзення — беспрэцэдэнтнае мноства транспартных сродкаў на беларуска-польскай граніцы. Паводле інфармацыі, якая паступіла ад камандуючага пагранічнымі войскамі рэспублікі генерал-маёра В.Маркоўкіна, на розных пераходах граніцы даўжыня чэргаў складае ад 4 да 5 кіламетраў.

На праведзенай нарадзе быў вызначаны шэраг мераў па нармалізацыі абстаноўкі, у тым ліку павелічэнню колькасці супрацоўнікаў мытных органаў і саставу пагранічных нарадаў з абодвух бакоў.

**Аляксандр ЛЮШКЕВІЧ, Белінфарм.**

## *Нам пішуць... Нас пытаюць...*

Паважаны сп. Пруські!

Паведамляю вас, што я зьмяніла месца пражываньня і жыву цяпер у Антвэрпэне. За прысыланую газэту дзякую і прашу прысылаць далей.

Адначасна перасылаю ахвяру на падмогу вашай газэце...

Шчырыя прывітаньні, З. С.

*Дзякую за гойную ахвяру і жадаю Вам Усяго найлепшага ў Вашым асабістым жыцьці.*

Дарагі Мікола!

Перасылаю ахвяру на газэту. Перапрашаю, што так доўга не адзываўся. Неяк ня ўсё ідзе, як належыцца. Маю многа праблемаў са здароўем. У часе 3-х гадоў меў тры паважныя апэрацыі. Але яны не прынесьлі спадзяваных вынікаў. Таксама апякуюся хворым сынам...

Што да грамадзкага жыцьця, дык жывучы далёка ад сваіх цэнтраў ня многа што зробіш.

Газэту чытаю з прыемнасцью. Дапамагай Табе Божа ў далейшай працы на карысьць нашае грамадзкасьці.

З пашанай, Л. Т.

*Дарагі сябра! Дзякую за ліст і ахвяру. Спачуваю Табе ў Тваіх жыцьцёвых нявязках, але-ж... трэба жыць і мужна змагацца! Жадаю моцнага здароўя і ўсяго найлепшага. Трымайся!*

В. Паважаны Сп. Рэдактар!

Беларусь амаль 200 год пакутавала ад уціску. Зьдзекаваліся з мовы, царквы і г. д. І вось цяпер мы бачым, што ў Беларусі нехапае любві да роднае мовы і да роднага краю. Пачала Беларусь падымацца з каленяў, а тут зноў падсоўваюць ражом бальшавіцкага прымусу. Ненавісьнікі Беларускае незалежнасьці ліквідуюць бел-чырвона-белы сьцяг і нашу старадаўнюю Пагоню. Цяпер ужэ ясна відаць хто гэтым кіруе, гэта рускія афіцэры і прыблуды — яны цягнуць Беларусь у маскоўскі хамут. Адраканьне ад беларускай сымволікі вядзе беларусаў зноў да паніжэньня годнасьці і гонару...

Чаму Беларусь мусіць цярпець такую зьнявагу і паніжэньне?..

К. В.

*Маем тое, што маем... А магло-б і павінна было-б быць лепш. Але гляньма на сябе: колькі дабра мы зрабілі для нашае першае Бацькаўшчыны? Вельмі мала, бо нас прасьледуе непатрэбная зайздрасьць, скупасьць і сварлівасьць...*

## Дзед Талаш — герой ці камэдыянт?..

Прачытайце, што піша ў "Народнай Газэце" Спадар Мікола Жыгоцкі і вывады зрабіце самі...

**...Галоўныя сілы палякаў знаходзіліся ў Скрыгалаве, а мы былі згуртаваны ў Вялікай Слабадзе. Паміж працінікамі і намі была цэлая нейтральная паласа, куды я не адзін раз хадзіў на разведку — і сам, і з чырвонаармейцамі, і з асобнымі партызанамі. Аднойчы са мною было такое здарэнне. Праходзячы праз нейтральную паласу, я ў лесе насунуўся на групу ўзброеных палякаў. Пачалі яны страляць у мяне. Дзявацца мне не было куды. Злавілі яны мяне, вядуць да каменданта. Я прыглядаюся на абаружаных людзей і бачу — шчупленькія. Я прыкінуўся прасцячком і кажу ім: "А стрэльбачкі ж якія ў вас добрыя!" І ў гэты ж час схапіў у аднаго паляка стрэльбу, наводліў стукнуў аднаго з іх па галаве, стрэльба зламалася і ў маёй руцэ застаўся ствол. Гэтым ствалом умомант размахнуўся, ударыў другога. Удары былі да таго крэпкія, што адзін і другі зваліся з ног, а тры астатнія ў паніцы кінуліся ўцякаць ад мяне. А гэтага мне толькі і трэба. Я адразу ж кінуўся назад і гэтым выратаваўся ад немінучай смерці...**

## *НОВЫЯ ЗАМЕЖНЫЯ ВЫДАНЬНІ:*

Беларускі Інстытут Навукі й Мастацтва толькі што выдаў новую кнігу Міколы Цэлеша "Хмары над Бацькаўшчынай". Гэта зборпрозы аўтара, надрукаваны на 299 стр. Кніга, як заўсёды, выдана ў цьвёрдай абкладцы.

Новы 40-ы № "Беларускае Думкі" за 1995 год выданы ў Саўт Рывэры, ЗША. На 40 бачынах звычайнага фармату зьмешчана шмат даволі цікавага матэрыялу.

Паважаны Сп. Пруські!

Шчыра дзякую за газэту і за памяць пра сьв. пам. майго мужа, бацькі і дзеда.

Ён любіў чытаць і шанаваў беларускую прэсу... "Беларускі Дайджэст" нам падабаўся. Залучаю ахвяру на выдавецкую справу. Прашу прысылаць газэту і далей...

З пашанай Ю. Н.

*Выказваем нашы спачуваньні з прычыны сьмерці Вашага мужа. Жадаем усяго найлепшага ў Вашым далейшым жыцьці.*

Спадар Рэдактар!

Учора атрымаў з Віцебска ад кузынкі першую старонку "Народнае газеты". На ёй зьмешчаны здымак, відаць з залы суда, дзе на першай лаве сядзіць лідэр БНФ Зянон Пазьняк. Выглядае, што Сп. Пазьняк судзіцца з нейкім тыпам-рэжы-сёрам. Такой паважнай асобе, як З. Пазьняк сядзець на лаве ў прысутнасьці бальшавіцкага халуярэжысёра, мякка кажучы, проста не карэктна. Ня можна так нізка апускацца. Для нас на Захадзе паводзіны Сп. Пазьняка ў гэтым выпадку выклікаюць неразуменьне...

І яшчэ кузынка піша мне, што менскія і іншыя газэты ўжо паздымалі са сваіх загалоўкаў беларускую нацыянальную сымволіку, а бальшавіцкія нагароды і далей там красуюцца... Вось якія героі-баязьліўцы-прыстасаванцы ўзначальваюць газэтныя выданьні на Беларусі. Сорам...

Б. Ж.

*Падобных крытычных лістоў у апошні час прыходзіць больш чым звычайна. Некаторыя з іх проста не надаюцца да друку. Тое, што дзеецца на Беларусі, іншы раз і для мяне не зусім зразумела... Але ці варта, на маю думку, злосьцю і нянавісьцю псаваць сабе нэрвы?..*

Спадар Рэдактар!

Калі ласка, надрукуйце гэты матэрыял у "Беларускім Дайджэсце".

Выканаўчы камітэт Фэдэральнай Рады Бел. Аргнізацыяў у Аўстраліі вітае Ўсіх суродзічаў з 51-мі ўгодкамі Другога Ўсебеларускага Кангрэсу, які адбыўся ў сталіцы Беларусі — Менску, дня 27-га чэрвеня 1944 году, пры ўдзеле 1039 дэлегатаў з этнаграфічнае тэрыторыі Беларусі.

Ніколі ў гісторыі беларускага народу ня прышлося перажыць столькі гора і ліхалецьця, як падчас ІІ-е Сусьветнае вайны...

Ворагі беларушчыны забівалі лепшых сыноў нашага народу, палілі вёскі ды хутары, вывозілі насельніцтва на ўсход і на захад...

Аднак знайшліся адважныя дзеячы нашага народу, якія пад пагрозай сьмерці арганізавалі беларускае жыцьцё, а пасьля і БЦР пад кіраўніцтвам праф. Р. Астроўскага...

Усе гэтыя палітычныя дасягненьні былі ўвенчаныя скліканьнем ІІ-га Ўсебеларускага Кангрэсу, каб устанавіць у праўнай сіле Акт 25-га Сакавіка 1918 году...

Дарагія браты Беларусы! Наша 51-на гадовая праца на чужыне ня была змарнаванай. Мы зьберагалі чысьціню беларускай мовы, культуру, рэлігію і гэтым мы запалілі непагасную зорку сярод нашага маладога пакаленьня, якое на роднай Бацькаўшчыне змагаецца сёньня не шкадуючы ні сілы ні жыцьця.

Верым, што ідэалы І-га і ІІ-га Ўсебеларускіх Кангрэсаў будуць належна ацэнены ў сучаснай Беларусі. Дапаможы Божа! Жыве Беларусь!!!

*За ўправу Фэд. Рады — Паўлюк Гуз.*

**На паседжаньні Выканаўчага Камітэту Фэд. Рады Беларускіх Арганізацыяў у Аўстраліі пастаноўлена зьвярнуцца да ўсіх Беларусаў сьвету з заклікам:**

Беларусь перажывае крызіс. Наша першая Бацькаўшчына пад уплывам варожых беларускаму народу сілаў апынулася ў крытычным стане. Стаіць пытаньне: выжыве Беларусь ці не... Мы, беларусы Аўстраліі, заклікаем усіх Беларусаў сьвету, дзе-б Вы ні знаходзіліся, выступіць разам з пратэстам супраць маскоўскай экспансыі і шчыльнымі радамі выйсьці з дапамогай незалежнай Беларусі...

*(Дзеля нястачы месца, друкуем толькі першы абзац гэтага доўгага і цікавага звароту...)*

**Ад Рэдакцыі**

Лісты ў Рэдакцыю просім пісаць, па магчымасьці, разборчыва і ясна. Ужываньне "салёных" і "вострых" слоў дапускаецца толькі ў вынятковых выпадках. А так, калі ласка, пісьмы прысылайце... ну і зразумела ахвяры таксама...